• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

3 верасня 1996 г.
аўторак, № 217
(23020)



# ЗВЯЗДА

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 344

### АБ СВОЕЧАСОВАЙ ВЫПЛАЦЕ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ ПЕНСІЙ, СТЫПЕНДЫЙ І ДАПАМОГ

У мэтах узмацнення сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Кіраўнікам прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый незалежна ад формаў уласнасці забяспечыць ліквідацыю запазычанасці па выплаце заработнай платы работнікам да 20 кастрычніка 1996 г.

Устанавіць, што названыя кіраўнікі, якія не забяспечваюць своечасовую выплату заработнай платы і ўнясенне плацяжоў у бюджэт, нясуць персанальную адказнасць аж да вызвалення ад займаемых пасад.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам забяспечыць своечасовую выплату заработнай платы работнікам устаноў і арганізацый, якія фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, а таксама пенсій, стыпендый і дапамог.

3. Устанавіць, што заработная плата, пенсіі, стыпендыі і дапамогі ў выпадку затрымкі іх выплаты індэксуюцца ў адпаведнасці з індэксам спажывецкіх цэн, публікуемым Міністэрствам статыстыкі і аналізу.

4. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнаму банку, акцыянерна-камерцыйным банкам аказваць мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, суб'ектам гаспадарання неабходную фінансавую і крэдытную падтрымку для вырашэння вызначаных гэтым Указам задач.

5. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь у першачарговым парадку прыняць закон аб заработнай плаце.

6. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
А.ЛУКАШЭНКА.**

30 жніўня 1996 г.
г. Мінск.

### ТЭРМІН УВЯДЗЕННЯ Ў ДЗЕЯННЕ ЎКАЗА АБ ПАДАТКАХ ПЕРАНОСІЦЦА

З 1 ліпеня на 1 кастрычніка пераносіцца тэрмін увядзення ў дзеянне Пастановы Кабінета Міністраў «Аб парадку аплаты падатку на прыбытак і падаходнага падатку пры рэалізацыі тавараў (работ, паслуг) за наяўны разлік праз рознічную гандлёвую сетку, а таксама на рынках, кірмашах, выстаўках-продажах», якая была прынята 27 чэрвеня гэтага года. Гэтае змяненне ў дакумент урад унёс 29 жніўня.

Нагадаем, што ў гэтай пастанове гаворка вядзецца аб фіксаваным падатку на прыбытак дробных гандляроў. Прычым «цвёрдыя» сумы падатку, адзначаецца ў дакуменце, павінны дыферэнцыравацца ў залежнасці ад аб'ёму гандлёвага абароту. Што адбылося ў Мінску, калі ўлады горада паспрабавалі ўвесці такі падатак, не дыферэнцыраваўшы яго, мы ўжо паведамлялі: так званыя «чаўнакі» ўсіх рынкаў сталіцы забаставалі.

*УСЛЕД ЗА ПАДЗЕЯЙ*

## НАРАДЖЭННЕ ГОНАРУ



**31 жніўня—1 верасня на Навагрудчыне прайшлі ўрачыстасці, рознага кшталту мерапрыемствы ў рамках Свята беларускага пісьменства і друку. Амаль увесь суботні дзень быў прысвечаны навуковай канферэнцыі «Пісьменства і друк на Навагрудчыне». У мінулую ж нядзелю ўрачыстасці разгарнуліся ў трох, скажам так, пунктах, старажытнай, багатай на гісторыю зямлі. У самім Навагрудку, колішняй сталіцы Вялікага княства Літоўскага, ужо з раніцы жыхары і госці мелі шанц быць назіральнікамі (а пры жаданні — і ўдзельнікамі) урачыстага адкрыцця свята. Займальнае мастацкае відовішча дапаўняў хрэсны ход з Непагаснай лампадай духоўнасці. Тым часам у гарадскім парку разгортвалася дзіцячае свята. Праводзіўся ў Навагрудку і кірмаш мастацтваў. Вечарам жа ўсе жадаючыя сабраліся на канцэрт майстроў мастацтваў, творчай моладзі Беларусі.**

**(Заканчэнне ў наступным нумары.)**



## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 345

### АБ НЕКАТОРЫХ МЕРАХ ПА ЎПАРАДКАВАННЮ ЦЭНАЎТВАРЭННЯ НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У мэтах паляпшэння сацыяльна-эканамічнага становішча насельніцтва Рэспублікі Беларусь, недапушчэння неабгрунтаванага росту цэн **пастанаўляю:**

1. Не дапускаць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь росту цэн на тавары (работы, паслугі) без адпаведнага росту заработнай платы.

2. Не павышаць да канца 1996 года цэны на хлеб масавых гатункаў, малако і кісламалочныя прадукты, дзіцячае харчаванне, тавары для дзяцей, а таксама на камбікорм для продажу насельніцтву.

Устанавіць, што насельніцтва Рэспублікі Беларусь праводзіць аплату за карыстанне жылымі памяшканнямі і жыллёва-камунальныя паслугі не больш як 50 працэнтаў затрат жыллёва-камунальных прадпрыемстваў па аказанню гэтых паслуг.

3. Устанавіць, што на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь цэны (тарыфы) на тавары (работы, паслугі) рэгулююцца цэнтральнымі органамі кіравання, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі згодна з дадаткам.

4. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь у тэрмін да 1 студзеня 1997 г. прыняць закон аб цэнаўтварэнні.

5. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

для каардынацыі дзейнасці дзяржаўных органаў па пытаннях цэнаўтварэння стварыць камісію на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. Да 15 верасня 1996 г. зацвердзіць палажэнне аб указанай камісіі і яе персанальны састаў;

прывесці рашэнні ўрада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Указам.

6. Кантроль за выкананнем гэтага ўказа ўскласці на Службу кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

7. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
А. ЛУКАШЭНКА.**

30 жніўня 1996 г., г. Мінск.

**(Дадатак да Указа друкуецца на 2-й стар.)**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## СЯМЁН ШАРЭЦКІ ЗАКЛІКАЕ ДА ШЫРОКАГА І ЎДУМЛІВАГА АБМЕРКАВАННЯ ПРАЕКТА НОВАЙ РЭДАКЦЫІ КАНСТЫТУЦЫІ

2 верасня ўрачыста адкрылася 2 сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Сесія мае дзве асаблівасці: па-першае, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, яго намеснік Васіль Новікаў, а таксама іншыя дэпутаты, як і было абяцана, стараліся весці пасяджэнне на беларускай мове. Па-другое, сесія распачалася пад знакам рэферэндуму, які ініцыіраваў А. Лукашэнка і які будзе шмат значыць для далейшага лёсу, для ўсёй нашай краіны ў цэлым і парламента ў прыватнасці.

Тэма рэферэндуму і прапануемых Прэзідэнтам змен у Канстытуцыі была дамінуючай у кулуарных размовах. Але не толькі. Адкрываючы сесію ВС яго Старшыня С. Шарэцкі выступіў з уступным словам, у якім ён гаварыў перш за ўсё аб апублікаваным новым варыянце Канстытуцыі. С. Шарэцкі звярнуўся да ўсіх з просьбай удумліва прачытаць тэкст Канстытуцыі, якую прапанаваў Прэзідэнт і паспрабаваць уявіць сабе, якое грамадства будзе ў Беларусі, калі гэты праект будзе прыняты нашым народам і што чакае пасля гэтага наш народ. Старшыня ВС выказаў перасцярогу канцэнтрацыі ўлады ў дзяржаве ў руках аднаго чалавека. Ён таксама заявіў, што прызначэнне даты рэферэндуму з'яўляецца прэрагатывай ВС, а не Прэзідэнта.

С. Шарэцкі не выключыў магчымасць таго, што Вярхоўны Савет дапоўніць спіс пытанняў на рэферэндуме сваімі — чаму б не запытаць у людзей, ці хочуць яны, каб кіраўнікі мясцовай улады выбіраліся самім насельніцтвам, ці патрэбны пасля прыняцця новай Канстытуцыі нанова абраць і Прэзідэнта і парламент. Сямён Шарэцкі заклікаў сваіх калег на працягу тыдня папрацаваць і прызначыць дату рэферэндуму, а на наступныя два тыдні раз'ехацца па сваіх акругах і дапамагчы выбаршчыкам разабрацца ў сапраўдных мэтах рэферэндуму. «Думаю, што праект новай Канстытуцыі трэба было б абмеркаваць на сесіі мясцовых Саветаў, на заводах, магчыма трэба было б правесці і парламенцкія слуханні: трэба народу растлумачыць, што прапанаваная Прэзідэнтам Канстытуцыя ўстановіць дыктатуру адной асобы», — заявіў С. Шарэцкі.

2 верасня дэпутаты зацвердзілі парадак дня і графік сваіх пасяджэнняў. Апрача іншага, у прапанаваны раней спіс пытанняў другой сесіі ўключаны пытанні аб унясенні дапаўненняў у дзеючую Канстытуцыю па выніках мінулагодняга рэферэндуму «аб мовах і аб праве Прэзідэнта на роспуск парламента». Сенсацыйна выглядалі заявы дэпутата Мініча і Ляшчынскага аб тым, што яны не падпісвалі прапрэзідэнцкага звароту дэпутатаў, што подпісы іх фальсіфікаваны. З аналагічнай заявай, як паведаміў Сямён Шарэцкі, выступіў і Вячаслаў Кебіч. Ён таксама не падпісваў ніякіх зваротаў, што былі апублікаваны ў «Народнай газеце» і «Советской Белоруссии».

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*НАДВОР'Е*

## СПЯКОТА СПАДЗЕ Ў СЕРАДУ

**Каляндарная восень уступіла ў свае правы, аднак надвор'е застаецца па-летняму спякотным.**

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Белгідрамецэ, сёння надвор'е яшчэ будзе фарміравацца пад уплывам поля высокага ціску, таму істотна не зменіцца.

Аднак ужо ў бліжэйшыя суткі праз тэрыторыю Беларусі пройдзе халодны франтальны раздзел, які выкліча павелічэнне воблачнасці і паніжэнне тэмпературы на 4—8 градусаў. Месцамі пройдуць дажджы.

**Сяргей ПРОТАС.**

*УРАДЖАЙ-96*

## ПА ЎСЁЙ РЭСПУБЛІЦЫ — ДАЖЫНКІ

**Сёлетняе жніво ўступіла ў перыяд дажынак. Праз два-тры дні ўсе зернебабовыя будуць убраны.**

Паводле апошніх даных, усяго ўбрана дзесьці 96 працэнтаў засеяных плошчаў. Ураджайнасць зараз складае 24,9 цэнтнера з гектара. Па-ранейшаму з самымі лепшымі паказчыкамі ідзе Гродзеншчына — 28,8 цэнтнера з гектара, неблагія лічбы ў Мінскай вобласці — 26,7. Нізкай застаецца ўраджайнасць на поўначы, на Віцебшчыне — 19,4 цэнтнера з гектара.

Па намалочанаму гаспадаркі набліжаюцца да запаветных, абвешчаных яшчэ ў пачатку жніва, шасці мільёнаў тон (на сённяшні дзень на таках ужо знаходзіцца 5.664.800 тон збожжа). А вось план па дзяржаўнаму заказу пакуль што выкананы на 72 працэнты, у рэспубліканскія засекі паступіла 1366 тысяч тон. Сярод рэгіёнаў больш за ўсіх здадзена Магілёўшчынай — 90 працэнтаў (258 тысяч тон) і Міншчынай — 70 працэнтаў (305 тысяч тон). Да гэтых лічбаў блізкія і астатнія вобласці: Гродзенская — 69 (216), Гомельская — 68,5 (175), Віцебская — 68 (211) і Брэсцкая — 67 (201).

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ЦІ РЭАЛЬНАЕ СЁННЯ ПАВЫШЭННЕ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ

Апошнім часам, як вядома, некаторыя палітычныя партыі, прафсаюзы настойліва патрабуюць ад Прэзідэнта, урада краіны павысіць мінімальную заработную плату да 150 тысяч рублёў і, адпаведна, стаўку першага разраду — да 170 тысяч рублёў. На нядаўняй нарадзе ў Кабінеце Міністраў, дзе разглядаліся праблемы запазычанасці па зарплаце, віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг у сваім выступленні разам з іншымі пытаннямі закрануў і гэта.

Ён паведаміў, што рост выпуску валавога прадукту ў гэтым годзе склаў 0,2 працэнта, а рост зарплаты — 2,7 працэнта. З пачатку года на працягу пяці месяцаў узровень росту заработнай платы быў вышэйшы за ўзровень росту цэн. Сяргей Лінг заявіў, што ўстанавіць патрабуемыя стаўкі мінімальнай зарплаты і адпаведна, першага разраду цяпер абсалютна немагчыма. Падлічана ўжо, што калі давесці мінімальную зарплату хоць бы да 130 тысяч рублёў, а першы разрад — да 150 тысяч рублёў, то для гэтага спатрэбіцца дадаткова 326 мільярдаў рублёў у месяц. Такіх магчымасцей у краіне сёння няма. Вядома, што існуючая запазычанасць па зарплаце ў рэспубліканскім бюджэце складае каля 1 трыльёна рублёў, каля 3 трыльёнаў налічваюць даўгі мясцовых бюджэтаў. На думку віцэ-прэм'ера, цяпер больш важна прыкласці максімум намаганняў для скарачэння і хутчэйшай ліквідацыі запазычанасці па выплаце заробленага.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## *Калектыву работнікаў Праматамнагляду*

Сардэчна віншую работнікаў Камітэта па нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы з 40-годдзем з дня яго ўтварэння.

За гэты перыяд камітэтператварыўся з невялікай наглядной установы ў шматгаліновы дзяржаўны орган рэгулявання пытанняў тэхнічнай, ядзернай і радыяцыйнай бяспекі пры стварэнні і эксплуатацыі патэнцыяльна небяспечных вытворчасцей і аб'ектаў у рэспубліцы.

Станаўленне Камітэта непарыўна звязана з аднаўленнем разбуранай вайной народнай гаспадаркі краіны, яе развіццём і характарызуецца актыўным удзелам многіх работнікаў камітэта ў стварэнні энергетычнай базы рэспублікі, будаўніцтве і асваенні аб'ектаў хіміі.

Работнікі Камітэта, ажыццяўляючы нагляд за бяспечнай эксплуатацыяй вытворчасцей і аб'ектаў на прадпрыемствах, у газавай гаспадарцы, пры вядзенні горных работ, уключаючы нафтаздабычу, перавозцы небяспечных грузаў чыгуначным транспартам, за ядзернай і радыяцыйнай бяспекай, многімі відамі абсталявання павышанай небяспекі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, прадухілілі сотні аварый і няшчасных выпадкаў, выратавалі жыцці тысячам людзей.

Дзякуючы высокаму прафесіяналізму, аператыўнасці, добрасумленным адносінам да справы вы па праву заслужылі павагу работнікаў вытворчасці, бо на рабочым месцы кожны павінен быць упэўнены, што яму гарантаваны бяспечныя ўмовы працы.

Асабліва ўзрастае роля вашага камітэта ў складаных умовах эканамічных пераўтварэнняў, бо на яго кладзецца ўвесь цяжар работы па забеспячэнню бяспекі на прадпрыемствах.

Перакананы, што калектыў работнікаў Праматамнагляду, якія ўдзяляюць вялікую ўвагу стварэнню сучаснай тэхнічнай базы, удасканаленню формаў і метадаў наглядной дзейнасці, расшырэнню сферы нагляду, выканае ўскладзеныя на яго задачы. Таму што няма больш высакароднай мэты, чым клопаты аб здароўі і жыцці людзей.

Жадаю вам моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, новых працоўных поспехаў на карысць нашай дзяржавы.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

## ПРЭЗІДЭНТ АБАРАНЯЕ МАЛАЗАБЯСПЕЧАНЫХ ГРАМАДЗЯН

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка падпісаў шэраг указаў і распараджэнняў аб сацыяльнай абароне малазабяспечаных слаёў насельніцтва.

Іх мэта — у складаных умовах пераходу да рыначнай эканомікі аказаць дзяржаўную падтрымку мнагадзетным сем'ям, пенсіянерам, інвалідам і іншым катэгорыям грамадзян.

Створаныя ў адпаведнасці з распараджэннем Прэзідэнта ў гарадах і раёнах камісіі ў залежнасці ад вынікаў абследавання матэрыяльнага становішча названых катэгорый насельніцтва прымуць рашэнне аб памеры аднаразовай грашовай дапамогі і вызначаць тэрмін яе выплаты.

Кіраўнік дзяржавы запатрабаваў ад Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Адміністрацыі Прэзідэнта і мясцовых органаў выканаўчай улады ўстанавіць жорсткі кантроль за размеркаваннем выдзеленых з бюджэту сродкаў.

Згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі «Аб узмацненні сацыяльнай падтрымкі работнікаў бюджэтнай сферы», пачынаючы з III квартала 1996 года да змянення памеру мінімальнай заработнай платы будзе ажыццяўляцца паквартальнае прэміраванне работнікаў устаноў і арганізацый, якія фінансуюцца за кошт сродкаў бюджэту ў памеры да пяці мінімальных заработных плат.

У бліжэйшы час Прэзідэнт мае намер прыняць шэраг мераў, накіраваных на ўзмацненне дзяржаўнай падтрымкі работнікаў вышэйшай школы і навукі.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

## ДАДАТАК ДА УКАЗА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 30 ЖНІЎНЯ 1996 г.

№ 345

## ПЕРАЛІК

**тавараў (работ, паслуг), цэны (тарыфы) на якія рэгулююцца цэнтральнымі органамі кіравання і мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі**

**Міністэрства эканомікі**

Паліўна-энергетычныя рэсурсы: нафта сырая, газ прыродны звадкаваны, нафтапрадукты, электрычная энергія

Мінеральныя ўгнаенні

Спірт, гарэлка белая

Тавары (работы, паслугі) суб'ектаў гаспадарання, якія займаюць манапольнае становішча на таварных рынках Рэспублікі Беларусь (па пераліках, зацверджаных Міністэрствам прадпрымальніцтва і інвестыцый)

Серыйная прадукцыя абароннага прызначэння

Каштоўныя металы ў вырабах і ломе (разліковыя адпускныя і скупачныя цэны)

Карыстанне жылымі памяшканнямі (кватэрная плата)

Перавозка пасажыраў, грузаў і багажу чыгуначным транспартам

**Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі**

Паслугі па тэхнічнай інветарызацыі домаўладанняў

Паслугі па абмену жылой плошчы

**Міністэрства аховы здароўя**

Лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і медыцынскай тэхнікі (па ўзгадненню з Міністэрствам эканомікі)

Рамонт медыцынскай тэхнікі

Платныя медыцынскія паслугі (па ўзгадненню з Міністэрствам эканомікі)

Дэзінфекцыйныя, дэзінсекцыйныя і дэратызацыйныя работы, правядзенне санітарна-гігіенічных, таксікалагічных і мікрабіялагічных даследаванняў

Рамонт і выраб акулярнай оптыкі

**Міністэрства культуры**

Паслугі музеяў, білеты ў тэатры, на канцэрты і іншыя тэатральна-відовішчныя прадстаўленні, кіна-, відэабілеты

**Міністэрства лясной гаспадаркі**

Драўніна асноўных лясных парод, што адпускаецца на пні (паправачныя каэфіцыенты да таксаў — па ўзгадненню з міністэрствамі фінансаў і эканомікі)

**Міністэрства сувязі і інфарматыкі**

Паслугі сувязі, што аказваюцца насельніцтву (па ўзгадненню з Міністэрствам эканомікі)

Паслугі сувязі, што аказваюцца прадпрыемствам, аб'яднанням, арганізацыям і ўстановам

**Міністэрства транспарту і камунікацый**

Перавозка пасажыраў і багажу аўтамабільным транспартам (акрамя гарадскога транспарту агульнага прызначэння)

Карыстанне легкавымі таксі

**Дзяржаўны камітэт па авіяцыі**

Перавозка пасажыраў, грузаў і багажу авіяцыйным транспартам (па ўзгадненню з Міністэрствам эканомікі)

**Абласныя выканаўчыя камітэты і Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт**

Сацыяльна значныя тавары (работы, паслугі) для мясцовага спажывання па наменклатуры, што вызначаецца абласнымі і Мінскім гарадскім выканаўчымі камітэтамі, у тым ліку хлеб масавых гатункаў, малако і кісла-малочная прадукцыя, дзіцячае харчаванне, тавары для дзяцей (па ўзгадненню з камісіяй, якая ствараецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь для каардынацыі дзейнасці дзяржаўных органаў па пытаннях цэнаўтварэння)

Тавары (работы, паслугі) суб'ектаў гаспадарання, якія займаюць манапольнае становішча на мясцовых таварных рынках (па пераліках, што зацвярджаюцца Міністэрствам прадпрымальніцтва і інвестыцый)

Цеплавая энергія

Перавозка пасажыраў гарадскім транспартам агульнага карыстання (акрамя таксі)

Прадукцыя прадпрыемстваў грамадскага харчавання (нацэнкі)

Цвёрдае паліва і дровы для насельніцтва

Камунальныя паслугі: водаправод, каналізацыя, ацяпленне, гарачае водазабеспячэнне (па ўзгадненню з Міністэрствам эканомікі)

## НАВУЧЭНСКАЙ МОЛАДЗІ І ПРАФЕСАРСКА- ВЫКЛАДЧЫЦКАМУ САСТАВУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Першыя дні верасня заўсёды афарбаваны ў святочны колер. З яго надыходам тысячы і тысячы дзяцей, юнакоў і дзяўчат садзяцца за школьныя парты, прыходзяць у студэнцкія аўдыторыі, каб з новымі сіламі спасцігаць усю мудрасць ведаў, дасягненняў навукі, далучацца да скарбніцы сусветнай культуры.

Навучальны год, які пачаўся па выдатнай традыцыі Днём ведаў, сімвалізуе непарыўную сувязь цяперашняга пакалення з падзвіжніцкай дзейнасцю Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, якія так шмат зрабілі для духоўна-маральнай асветы нашага народа.

У сучаснай агульнаадукацыйнай, прафесіянальнай і вышэйшай школе закладваюцца інтэлектуальныя асновы Беларускай дзяржавы XXI стагоддзя. Менавіта таму для яе няма больш важнай, ганаровай і адказнай задачы, чым рыхтаваць грамадзяніна-патрыёта, здольнага тварыць і ствараць у імя Айчыны, натхнёнага ідэаламі дабра, прыгажосці і сацыяльнай справядлівасці.

Жадаю ўсім школьнікам і студэнтам, педагогам і выкладчыкам плённых поспехаў у вечным свеце навучання і выхавання.

Няхай вас не палохаюць сённяшнія цяжкасці. Мы іх абавязкова пераадолеем, абапіраючыся на працу і веды, і створым шчаслівае гуманнае і цывілізаванае грамадства.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 343

### Аб устанаўленні стыпендый Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь студэнтам дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў

У мэтах заахвочвання студэнтаў, якія дасягнулі асаблівых поспехаў у вучобе, навукова-даследчай і творчай дзейнасці, пастанаўляю:

1. Устанавіць для студэнтаў дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў 45 стыпендый Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і выплачваць іх пачынаючы з 1 верасня 1996 г.

2. Зацвердзіць прыкладаемае Палажэнне аб стыпендыях Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь студэнтам дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

29 жніўня 1996 г., г. Мінск.

***ЗАЦВЕРДЖАНА Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 жніўня 1996 г. № 343***

## ПАЛАЖЭННЕ

**аб стыпендыях Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь студэнтам дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў**

1. Стыпендыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь студэнтам дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў (далей — стыпендыі) назначаюцца за выдатную паспяховасць на працягу ўсёй вучобы ў ВНУ, асаблівыя поспехі ў навукова-даследчай і творчай дзейнасці і прыкладныя паводзіны.

Памер стыпендыі складае 4 мінімальныя заработныя платы.

2. Устаноўленыя гэтым Указам стыпендыі размяркоўваюцца паміж дзяржаўнымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, у тым ліку:

Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту, Беларускаму дзяржаўнаму педагагічнаму універсітэту імя Максіма Танка, Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, Беларускаму дзяржаўнаму эканамічнаму універсітэту, Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі — па 2 стыпендыі;

астатнім дзяржаўным вышэйшым навучальным установам — па 1 стыпендыі.

3. Назначэнне стыпендый ажыццяўляецца саветам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы таленавітых навучэнцаў і студэнтаў на падставе прапаноў саветаў ВНУ студэнтам 2—6 курсаў дзённай формы навучання.

4. Стыпендыі назначаюцца два разы ў год (у верасні і лютым) на падставе вынікаў экзаменацыйнай сесіі на адзін семестр. Пры гэтым за студэнтам захоўваецца ўстаноўленая вучэбная стыпендыя.

5. Рэктары ВНУ на працягу двух тыдняў пасля заканчэння вучэбнага семестра прадстаўляюць савету спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы таленавітых навучэнцаў і студэнтаў неабходныя звесткі аб кандыдатурах на назначэнне стыпендыі па форме: прозвішча, імя, імя па бацьку студэнта (поўнасцю), курс, спецыяльнасць, кароткая характарыстыка дасягненняў у вучобе, навукова-даследчай і творчай дзейнасці.

6. Пры першым назначэнні стыпендыі прэзідэнцкаму стыпендыяту выдаецца пасведчанне, якое ўручаецца ва ўрачыстай абстаноўцы.

7. Савет спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы таленавітых навучэнцаў і студэнтаў мае права пазбавіць студэнта стыпендыі пры адпаданні падстаў, прадугледжаных пунктам 1 гэтага Палажэння. Студэнты, пазбаўленыя стыпендыі, паўторна да яе назначэння не прадстаўляюцца.

## У РЭЗІДЭНЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА КРАІНЫ ПРАЙШОЎ РЭСПУБЛІКАНСКІ ПЕДСАВЕТ

Менавіта так назваў Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка сустрэчу з лепшымі прадстаўнікамі настаўніцтва Беларусі. Перад сур'ёзнай размовай аб праблемах школы настаўнікі краіны павіншавалі кіраўніка дзяржавы з днём яго нараджэння, падарыўшы Аляксандру Лукашэнку не толькі кветкі, але і сваю любоў і ўдзячнасць за ўсё тое добрае, што ён робіць для сферы адукацыі.

Прэзідэнт таксама пачаў сваё выступленне са слоў падзякі настаўнікам. Менавіта яны, лічыць Аляксандр Лукашэнка, з'яўляюцца сувязным звяном паміж кіраўніком краіны і народам. Таму напярэдадні рэферэндуму, гэтай важнейшай падзеі ў нашай краіне, першыя экземпляры змяненняў у Канстытуцыю Прэзідэнт падарыў удзельнікам сустрэчы. «Я не ўяўляю перамогі на рэферэндуме без вас», — прызнаўся Аляксандр Лукашэнка.

Далей размова ішла аб шматлікіх школьных праблемах. Адной з важных сярод іх доўгі час была праблема са школьнымі падручнікамі. Цяпер сітуацыя ў гэтым пытанні значна палепшылася. Прэзідэнт падкрэсліў, што план выпуску падручнікаў выкананы. Прычым выдадзены ўсе кнігі ў Беларусі і каштуюць у два разы танней, чым у той жа Расіі, ды і якасць у іх вельмі добрая. Аляксандр Лукашэнка заклікаў рэфарміраваць школу паступова і паволі, бо кансерватызм школьнага навучання, у добрым сэнсе гэтага слова, заўсёды з'яўляўся заслугай айчыннай сярэдняй адукацыі.

Аб тым, што рэформа не стане сродкам ломкі існуючай сістэмы школьнага навучання, запэўніў Прэзідэнта краіны міністр адукацыі і навукі рэспублікі Васіль Стражаў. У сваім выступленні міністр падзякаваў кіраўніку дзяржавы за дапамогу ў стварэнні нацыянальнага кнігадрукавання падручнікаў для школы. Раней у нашу рэспубліку ўсё гэта паступала з Расіі, там пісаліся педагагічныя дапаможнікі, там размяшчаліся і ўсе навукова-даследчыя інстытуты. А суверэнітэт любой краіны, на думку Васіля Стражава, пачынаецца з таго, што ёсць свае школьныя падручнікі. Новыя навучальныя дапаможнікі, асабліва па гуманітарных дысцыплінах, адпавядаюць задачам, што стаяць перад нашым грамадствам. Праўда, пакуль, на жаль, ганарары ў беларускіх аўтараў падручнікаў мізэрныя. Ёсць праблема і з выдавецтвам «Народная асвета», якое ў асноўным займаецца выпускам такой літаратуры. Міністр папрасіў Прэзідэнта вярнуць гэта выдавецтва «пад крыло» міністэрства і праінфармаваў таксама аб тым, што ў наступным годзе на выпуск новых падручнікаў запатрабуецца ўжо каля 600 мільярдаў рублёў.

Міністр адзначыў, што існуе неабходнасць у павышэнні аплаты працы настаўніка. Прычым размова ідзе не аб тым, каб павысіць зарплату адразу ўсім. Улічваючы цяжкасці з бюджэтам, аб такім маштабным павелічэнні заработнай платы прасіць не прыходзіцца. Аднак заслужаныя работнікі адукацыі са шматгадовым стажам маюць права разлічваць на нейкую ўзнагароду.

Нізкая зарплата настаўнікаў, зношанасць школьнага абсталявання, адсутнасць у дастатковай колькасці наглядных дапаможнікаў на беларускай мове, становішча ў сельскіх школах і дашкольных установах, а таксама праблемы «чарнобыльскіх» дзяцей — усё гэта далёка не поўны пералік пытанняў, абмеркаваных на сустрэчы. Тут выступалі і настаўнікі са сталіцы, і з глыбінкі. Кожнаму з іх Прэзідэнт стараўся адказаць падрабязна і грунтоўна. Па многіх выступленнях даў канкрэтныя даручэнні. Асаблівую ўвагу Аляксандр Лукашэнка засярodзіў на становішчы дзяцей у дашкольных установах, папярэдзіўшы аб самым строгім кантролі з яго боку за станам спраў у дзіцячых садках і іншых установах такога тыпу. Гарачую зацікаўленасць у Прэзідэнта выклікала і пытанне аб маладзёжных арганізацыях у школах, тэхнікумах і інстытутах. Завяршылася сустрэча ўручэннем лепшым педагогам ганаровага звання «Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь».

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

(Заканчэнне. Пачатак у «Звяздзе» за 31 жніўня).

Сумняваюся, каб 242 069 долараў, якія засталіся ў якасці запазычанасці, ён схаваў у скарбонку. Цяпер вырашаецца пытанне аб выдачы Куркіна беларускаму боку.

**— Ці ёсць якія-небудзь сур'ёзныя пагрозы ў адрас вядомых палітыкаў, аб чым многія заяўляюць з парламенцкай трыбуны?**

— Заявы гучалі, а вось каб яны былі рэальнымі, пацвярджэнняў не прыпомню.

У шэрагу выпадкаў не трэба выключаць і палітычнай падаплёкі. Прынамсі, афіцыйных зваротаў ад вядомых палітычных дзеячаў аб пагрозах у іх адрас не было.

Тым не менш, гэта не дае нам ніякай падставы да самазаспакаення. КДБ гатовы ўсяляк процідзейнічаць спробам пагроз, шантажу і да т. п., якія могуць насіць як палітычны, так і крымінальны характар.

**— Як цяпер развіваецца супрацоўніцтва камітэта са спецслужбамі Захаду? У чым супадаюць і разыходзяцца інтарэсы?**

— Калі ўзнікае неабходнасць, мы ідзём на кантакты са спецслужбамі замежных краін, у прыватнасці, па пытаннях канкрэтных сумесных дзеянняў у барацьбе з тэрарызмам, наркабізнесам, нелегальнай міграцыі, кантрабанды зброі і г. д. Гэта значыць, па той сферы злачыннай дзейнасці, якая набыла міжнародны характар і патрабуе аб'яднаных намаганняў, каб засцерагчы нашы дзяржавы ад іх праяўленняў.

Цеснае супрацоўніцтва развіваецца і са спецслужбамі дзяржаў Садружнасці. На Беларусі працуюць прадстаўнікі Федэральнай службы бяспекі і Службы знешняй разведкі Расіі, афіцэр па сувязі са Службай бяспекі Украіны. У адпаведнасці са сваімі паўнамоцтвамі яны выконваюць ролю каардынатараў супрацоўніцтва сваіх ведамстваў з КДБ нашай рэспублікі.

Зараз абмяркоўваецца пытанне аб назначэнні прадстаўнікоў КДБ Беларусі ў Маскве для наладжвання больш цеснага двухбаковага з ФСБ і СЗР Расіі.

На двухбаковай аснове мы падтрымліваем добрыя рабочыя адносіны са спецслужбамі Украіны, Казахстана, Малдовы, Таджыкістана.

**— Пасля распаду СССР у Расіі адбыўся падзел КДБ на тры часткі: ФСБ, СЗР і ФАУСІ (Федэральнае агенцтва ўрадавай сувязі і інфармацыі). Ці не плануецца такая рэарганізацыя і ў нас?**

— У рамках КДБ рэспублікі такая рэарганізацыя нерэальная і нематэазгодная, хаця б таму, што маштабы Расіі і Беларусі несупастаўныя. Там кожная служба мае свае інстытуты, праектныя бюро, вялікую колькасць асобных упраўленняў.

На Беларусі сітуацыя зусім іншая. Разведка, напрыклад, нешматлікая па свайму саставу і ў адзіночку ніяк не справіцца. Ёй сёння дапамагаюць усе нашы падраздзяленні. Вылучыць яе з адзінага арганізма практычна немагчыма.

У адносінах да ўпраўлення ўрадавай сувязі пытанне неадназначна ставілася, як вы памятаеце, але свайго вырашэння не знайшло. Звязана гэта з эканамічнымі цяжкасцямі, якія перажывае наша краіна.

Сёння нас непакоіць іншае пытанне — шматфункцыянальнасць беларускага КДБ. Спецслужбе даводзіцца шмат сіл аддаваць задачам праваахоўнага характару. У гэтым выпадку ў супрацоўнікаў могуць узнікаць пытанні псіхалагічнага характару: у навучальных установах нашага ведамства вучаць аднаму, а на практыцы даводзіцца займацца часам крыху іншымі справамі. Але што зробіш, калі час распарадзіўся так, што КДБ не можа стаяць у баку ад пытанняў барацьбы з арганізаванай і эканамічнай злачыннасцю.

### Уладзімір МАЦКЕВІЧ:

# «КДБ валодае становішчам у краіне і ў дастатковай меры выконвае ўскладзеныя на яго функцыі»

**Са старшынёй Камітэта дзяржаўнай бяспекі Уладзімірам Мацкевічам гутарыць карэспандэнт «Интерфакса»**

Як кіраўнік ведамства магу запэўніць, што нам бы хацелася быць спецслужбай у «чыстым» яе выглядзе, адмовіўшыся ад выканання некаторых неўласцівых КДБ функцый. З такімі прапановамі мы звярталіся ў Савет бяспекі. На адным з бліжэйшых яго пасяджэнняў гэта ініцыятыва будзе разгледжана.

Тым не менш, у полі нашага зроку ўсё ж застануцца пытанні карупцыі ў органах улады і кіравання, злачынствы ў сферы міжнародных эканамічных сувязей, фінансава-банкаўскай сістэмы, а таксама найбольш цяжкія злачынствы, якія цягнуць за сабой такія ж цяжкія для грамадства і асобы наступствы. Для гэтага ў КДБ ёсць дастаткова вопытныя супрацоўнікі і напрацоўкі ў адпаведных сферах.

**— У мінулым годзе на Беларусі зарэгістравана каля 20 фактаў захопу заложнікаў. Як бы вы ахарактарызавалі стан спраў у рэспубліцы, звязаных з тэрарызмам, пагрозамі рэальных выбухаў, захопам заложнікаў, «тэлефонным тэрарызмам», ядзерным?**

— Яшчэ два-тры гады таму ўсё гэта лічылася нехарактэрным для нашай рэспублікі. Адная падзеі апошніх гадоў змянілі становішча спраў.

Супрацоўнікі дзяржбяспекі сумесна з міліцыяй удзельнічалі ў вызваленні заложнікаў у дзіцячым садку г. Мінска, у будынку Кобрынскага аддзялення «Аграпрамбанка». На жаль, гэта далёка не поўны спіс. Сваю задачу мы бачым у тым, каб не толькі выкараняць такія злачынныя замахі, але і папярэджваць іх на стадыі задумы і падрыхтоўкі. Менавіта тут мы павінны з максімальнай аддачай выкарыстоўваць існуючы ў нас арсенал спецыфічных сіл і сродкаў.

Трэба адзначыць і прагрэсіруючую тэндэнцыю росту ананімных тэлефонных званкоў у розныя ўстановы з пагрозамі іх узрываў. Толькі за 6 месяцаў бягучага года іх прагучала каля 100. Набываючы вопыт расследавання такіх злачынстваў і ўдасканальваючы тэхнічную аснашчанасць, праваахоўныя органы ўсё часцей дабіваюцца поспехаў у выяўленні ананімных аматараў «пастрашыць» уладу, нанесці сваімі «жартамі» значную матэрыяльную шкоду дзяржаве і ні ў чым невінаватым людзям. У прыватнасці, у выніку праведзеных сумесных з органамі МУС мерапрыемстваў па выяўленню асобы, якая выказала па тэлефоне пагрозу ўзрыву будынка Палаца нафтавікоў у час выступлення Прэзідэнта рэспублікі 22 лютага гэтага года ў Наваполацку, устаноўлена дачыненне да ананімнага званка аднаго з мясцовых жыхароў, які раней прыцягваўся да крымінальнай адказнасці.

Мы разумеем, што любыя акты тэрарызму як крайняй формы праяўлення насілля акумуліруюць у сабе сацыяльныя супярэчнасці пераходнага перыяду ў жыцці грамадства і ўяўляюць рэальную пагрозу нацыянальнай бяспецы краіны. Тэракты, якія пачасціліся ў апошні час на прасторах краін СНД, вымушаюць нас вылучыць арганізацыю работы па барацьбе з тэрарызмам у адзін з прыярытэтных накірункаў дзейнасці камітэта.

Камітэт дзяржбяспекі надаваў і будзе надаваць вялікае значэнне арганізацыі і правядзенню мерапрыемстваў па расследаванню і папярэджанню актаў тэрарызму, рашучаму выкараненню злачыннай дзейнасці, здольнай дэстабілізаваць становішча ў рэспубліцы, прывесці да небяспечных вынікаў.

Не скідваем з рахункаў і магчымае выкарыстанне радыеактыўных рэчываў. У лютым гэтага года спынена перамяшчэнне па тэрыторыі рэспублікі чыгуначным транспартам небяспечнага рэчыва — «цэзію-133», агульнай вагой каля 5 кілаграмаў. Па ацэнцы спецыялістаў, ён выбуханебяспечны ўжо пры парушэнні ўмоў перамяшчэння. Такім чынам, магло адбыцца надзвычайнае здарэнне з цяжкімі наступствамі.

Не так даўно — 31 ліпеня — спынена дзейнасць злачыннай групы, якая займалася незаконным захоўваннем і збытам радыеактыўнага рэчыва «цэзій-137», агульная маса якога складае 42 кілаграмы. Па абодвух фактах следчым аддзелам КДБ узбуджана крымінальная справа.

Зараз яшчэ рана гаварыць аб магчымым выкарыстанні гэтых рэчываў у тэрарыстычных мэтах, але названыя факты насцярожваюць.

**— Як бы вы ахарактарызавалі стан спраў у сферы наркабізнесу?**

— Як вядома, гэта праблема мае міжнародны характар. Не абышла гэта бяда і нас.

За 1995 год у выніку праведзеных аператыўных мерапрыемстваў супрацоўнікамі КДБ канфіскавана каля 0,5 тоны наркатычных рэчываў. За 6 месяцаў бягучага года гэта лічба павялічылася яшчэ на 203 кг. Прычым пераважаюць такія моцнадзейныя разнавіднасці наркотыкаў, як феніцыклідын, ЛСД, гашыш, гераін. За гэтым стаяць дзесяткі і сотні чалавечых жыццяў і лёсаў.

З другога боку, гэта сведчанне таго, што рэспубліку спрабуюцьператварыць у спажыўца наркотыкаў і транзітны калідор. Прыкладам з'яўляецца выпадак у Віцебску, дзе прадстаўнікі самай гуманнай прафесіі на зямлі, даўшы клятву Гіпакрата, спрабавалі наладзіць вытворчасць «белай смерці». Спынена спроба наладжвання транспарціроўкі з ЗША ў нашу краіну моцнадзейнага сінтэтычнага наркотыку. Справа па гэтаму факту цяпер расследуецца УКДБ па г. Мінску і вобласці.

У 1995 годзе праваахоўнымі органамі выяўлена 1550 злачынстваў, звязаных з наркотыкамі (у 1994 годзе — 1424). З незаконнага абароту канфіскавана 1564 кг наркотыкаў і сыравіны для іх вырабу (у 1994 г. — 963 кг). Выяўлены 51 факт спроб кантрабанды (у 1994 г. — 28; за 6 месяцаў 1996 г. — 17) з канфіскацыяй больш чым 386 кг наркатычных сродкаў (у 1994 г. — 139,7 кг; за 6 месяцаў 1996 г. — 146,256 кг).

Заходнія наркадзялкі робяць актыўныя спробы стварыць на Беларусі рынак збыту какаіну, гераіну і амфетамінаў. Імі вывучаецца попыт на гэтыя наркотыкі.

Па-ранейшаму ў рэспубліцы дамінуюць наркотыкі раслiннага паходжання, асноўная колькасць якіх завозіцца з Украіны, Сярэдняй Азіі і Закаўказзя. Значнае распаўсюджанне атрымліваюць сінтэтычныя наркотыкі амфетамінавай групы тыпу «экстазі», а таксама метадон і ЛСД, якія ўвозяцца з Санкт-Пецярбурга, Масквы, Галандыі, Германіі, Польшчы, дзяржаў Прыбалтыкі, ЗША. Рэалізаваныя аператыўныя матэрыялы сведчаць аб тэндэнцыі да стварэння на базе медыцынскіх, навуковых і навучальных устаноў рэспублікі падпольных лабараторый па вытворчасці сінтэтычных наркотыкаў, якія паступаюць як на ўнутраны рынак, так і кантрабандным шляхам увозяцца ў Прыбалтыку, Заходнюю Еўропу і Расію.

Выклікаюць трывогу і прагрэсіруючыя ў некаторых раёнах рэспублікі ўспышкі ВІЧ-інфекцыі. Разносчыкамі яе з'явіліся наркаманы.

На жаль, у нас яшчэ не павярнуліся тварам да праблемы наркаманіі, бо праваахоўныя органы змагаюцца з вынікамі, а выяўленне і выкараненне прычын гэтай праблемы па сілах толькі ўсяму грамадству.

**— Ці завяршылася справа з алмазамі, затрыманымі ў аэрапорце «Мінск-2» у мінулым годзе?**

— Так, справа завершана. Віноўныя — былы дырэктар па вытворчасці ВА «Крышталь» і інжынер аддзела маркетынгу гэтага ж аб'яднання. Дарэчы, бацька і сын, асуджаны да розных тэрмінаў пазбаўлення волі па абвінавачанню ў спробе кантрабанднага вывазу за межы рэспублікі прыродных алмазаў масай 3405,83 карата на суму 808.884 долары ЗША, ці 9.439.628.465 рублёў і падробцы дакументаў. Алмазы накіраваны ў даход дзяржавы, а спыненне злачынства, як вы разумееце, дазволіла навесці парадак у захоўванні сыравіны і прадукцыі на Гомельскім ВА «Крышталь».

Гэта справа ўжо, можна сказаць, стала набыткам гісторыі. Калі ж гаварыць аб сённяшнім дні, то за 6 месяцаў бягучага года падраздзяленнямі па эканамічнай бяспецы, барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю КДБ рэспублікі вернуты ў даход дзяржавы звыш 1 млн. долараў ЗША, больш за 18 млрд. беларускіх рублёў, каля 0,5 кг плаціны, тавараў народнага спажывання на 45 млрд. рублёў. Гэта далёка не поўны пералік. Адным словам, супрацоўнікі КДБ Беларусі свой хлеб дарма не ядуць.

**— Дырэктар ФСБ М. Кавалёў паскардзіўся ў Парыжы на складанасць у працы ў сувязі з «актывізацыяй шпіёнскай дзейнасці ў Расіі» (колькасць затрыманых шпіёнаў М. Кавалёў параўнаў з часамі закідкі нямецкай агентуры ў гады Вялікай Айчыннай вайны. 28 грамадзян Расіі выкрыты ў шпіянажы. Папярэджана 100 спроб перадачы звышсакрэтнай інфармацыі). Як з гэтым справы ў кампетэнтных органах Беларусі?**

— Што ж, мы заўсёды радуемся за нашых расійскіх калег. Вынікі іх працы — сведчанне таго, што эстафета ад савецкай контрразведкі, якая заўсёды лічылася адной з самых моцных у свеце, у надзейных руках. Традыцыі, а галоўнае, высокі прафесіяналізм не толькі захаваны, але і прымнożаны новым пакаленнем контрразведчыкаў ФСБ.

Як я ўжо казаў раней, пра канкрэтную дзейнасць на тэрыторыі Беларусі спецслужбаў замежных дзяржаў мы дастаткова добра ведаем. Актыўнасць іх узрасла асабліва пасля набыцця рэспублікай суверэнітэту. Успомніце хаця б вядомыя з публікацый у прэсе заявы шэрага грамадзян рэспублікі, якіх спрабавалі вербаваць замежныя спецслужбы. Хачу запэўніць, заявы гэтыя зусім не беспадстаўныя. Да таго ж, ёсць у нас і жадаючыя прадаць сакрэтную інфармацыю, ёсць і тыя, каму яна патрэбна, таксама як і тыя, хто становіцца перашкодай у гэтым ланцужку. Пры гэтым хацелася б падкрэсліць, што процістаянне спецслужбаў з'яўляецца звычайным заканамерным працэсам і гэта не трэба звязваць з тымі кантактамі паміж намі ў сферы міжнароднай злачыннасці, пра што я ўжо казаў. Гэтыя кантакты мы будзем развіваць і надалей.

Напрыканцы дазвольце адзначыць, што КДБ рэспублікі валодае становішчам у краіне і ў дастатковай меры выконвае ўскладзеныя на яго функцыі. Асабісты састаў нацэлены на канкрэтную работу і дзейнічае ў звычайным дзелавым рытме.



## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ Запасы гатовай прадукцыі **на складах прадпрыемстваў** на 1 жніўня склалі 11.319 мільярдаў рублёў (на 1 ліпеня — 10.794 мільярды, на 1 чэрвеня — 10.744 мільярды).

❑ За апошнія два месяцы ў Магілёўскай вобласці было 140 пажараў, якія **знішчылі 180 гектараў** тарфянікаў і лесу: прычынай большасці стала **неасцярожнасць** насельніцтва.

❑ Штогод прадпрыемствы «Белнафтапрадукта» **здабываюць** на тэрыторыі рэспублікі **каля 2 мільёнаў тон нафты.**

❑ **Школы** краіны **адчуваюць патрэбнасць** у падручніках 254 найменняў, з іх да 1 верасня павінна быць атрымана вучэбных дапаможнікаў 172 найменні, але план выдання выкананы толькі па 169.

❑ Колькасць **стратна працуючых банкаў скарацілася** больш чым удвая, сумарныя страты з 61 мільярда рублёў, якімі былі адзначаны пачатак другога квартала, змяніліся к канцу чэрвеня **прыбыткам у 98 мільярдаў рублёў.**

❑ У першым паўгоддзі кожная трэцяя бутэлька **беларускага піва** была выпіта расіянамі; **вытворчасць** гэтага напою ў рэспубліцы павялічылася **на 46 працэнтаў.**

# ЛЮТЫ МЕЧ ПРАВАСУДДЗЯ

ЗЛАЧЫНСТВА караецца законам. Гэта аксіёма. Так было і так будзе да таго часу, пакуль будзе існаваць дзяржаўны лад. У іншым выпадку наступіць хаос, поўнае падзенне чалавечай маралі, безуладдзе і крушэнне важнейшых жыццёвых устояў. З неабходнасцю пакарання злачынства законам (асабліва крымінальнага, паколькі менавіта аб ім пойдзе размова) ніхто спрачацца не возьмецца, гэта зразумела. Але настаў час, а дакладней, настала неабходнасць пагаварыць аб адпаведнасці меры парушэння закона з мерай панесенага пакарання.

**Па матэрыялах крымінальнай справы.** *Жыхар вёскі В. К. вынес з калгаснага склада два мяхі мукі. Быў затрыманы работнікамі міліцыі. Па факту крадзяжу дзяржаўнай маёмасці была ўзбуджана крымінальная справа. Прыгавор суда: тры гады пазбаўлення волі з утрыманнем у папраўча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму.*

Я гутару са старшым інспектарам аддзялення грамадскай бяспекі і прафілактыкі Савецкага РАУС г. Мінска маёрам Жукаўцом. Ён займаецца ўлікам і наглядам за тымі асобамі, якія адбылі тэрмін і вярнуліся на месца жыхарства. Паводле слоў Уладзіміра Апалінаравіча, такіх спраў, калі людзей садзяць «за кавуны», пераважная большасць. Следчыя ізалятары і калоніі літаральна забіты тымі, хто мог бы за ўчыненае злачынства атрымаць пэўны штраф. І зусім не абавязкова змяшчаць чалавека за краты практычна ва ўсіх выпадках.

НА СЁННЯШНІ дзень «на папячэнні» маёра Жукаўца лічацца 264 чалавекі. Год назад гэта лічба складала 273 чалавекі. Увогуле, асабліва яна не мяняецца, застаецца пастаянна ў гэтых межах. Трэба ўлічыць, што гэта колькасць падапечных — толькі ў адным раёне горада Мінска. Дарэчы, паводле слоў майго субяседніка, у «спальных» раёнах сталіцы на ўліку ў інспекцыі папраўчых работ іх налічваецца яшчэ больш. Прынамсі, на ўліку ў інспекцыі знаходзяцца толькі тыя асобы, якія толькі нядаўна вярнуліся з месцаў пазбаўлення волі, або тыя, за якімі ўстаноўлены адміністрацыйны нагляд. Многія праз пэўны тэрмін здымаюцца з уліку. Але іх шэрагі, як сведчаць лічбы, бесперапынна папаўняюцца новымі «кліентамі». Такім чынам, калі не пашкадаваць часу і заняцца не вельмі складанымі падлікамі, то атрымаецца, што ў нашай рэспубліцы пабывала за кратамі каласальная колькасць людзей. Па праўдзе кажучы, узнікае міжвольная думка аб тым, што ў нас самыя буйныя і схільныя да злачынстваў людзі, усе пагалоўна адчайныя зладзеі і галаварэзы. Ці так гэта? Няўжо мірныя беларусы, якіх усе суседзі лічаць людзьмі спакойнымі і не вельмі рашучымі, на самай справе з'яўляюцца адпетымі злачынцамі?

**Па матэрыялах крымінальнай справы.** *У гарадскім пасёлку Мінскай вобласці ля магазіна стаяў веласіпед паштальёна. Міма праходзіў падвыпіўшы стары чалавек. Штосьці стукнула яму ў галаву, ён узяў гэты веласіпед і пакаціў. Далёка ён яго не адкаціў, таму што выбегшы паштальён забіў трывогу і дзеда «павязалі». Ніхто, у тым ліку і выкрадальнік, не зразумеў, навошта яму спатрэбіўся гэты веласіпед: ці то ён яго на самай справе «ўгнаў», ці то проста па п'янцы вырашыў праехацца. Тым не менш, суд вынес прыгавор: два гады пазбаўлення волі.*

У кабінеце маёра Жукаўца я пазнаёміўся і затым разгаварыўся з хлопцам, які толькі-толькі быў вызвалены з зоны. Трапіў ён туды наступным чынам: праз месяц пасля вяселля выпіў з сябрамі, зачапіліся з другой кампаніяй, пабіліся, у бойцы, як гэта часта бывае, камусьці штосьці пашкодзілі. У выніку — пяць месяцаў зняволення ў СІЗО, затым суд і... Колькі далі, ён чамусьці не сказаў, ды я і не настойваў. Як гаворыцца, пра такія рэчы лепш і зусім не пытацца. Але даведаўшыся, што я журналіст, Андрэй хоць і неахвотна, але ўсё ж падзяліўся ўбачаным.

— Можаце мне не верыць, але людзі сядзяць літаральна за дробязі. Большая частка зняволеных трапляе за краты за такія рэчы, што нават смешна гаварыць. Хтосьці ўкраў тры гваздзікі, хтосьці пару бананаў з латка сцягнуў, хтосьці, як я, п'яны пабіўся. Ёсць і такія, што ўвогуле ні за што сядзяць.

— Ёсць і такія? — міжволі вырвалася ў мяне.

— Ёсць, — хмура пацвердзіў Андрэй. — Быў у нас у атрадзе адзін «рэкецір». Неяк пазычыў у яго адзін знаёмы дзве бутэлькі гарэлкі. Пазычыў і доўга не аддаваў. Той цярпеў, цярпеў, потым пазваніў даўжніку і кажа, што, маўляў, зараз прыйду, вяртай гарэлку ці грошы. Мне ўсё роўна, але чакаць больш не буду. Той адказвае: добра, прыходзь, і пазваніў у міліцыю. Калі той, хто пазычаў, прыйшоў да даўжніка, яго ўжо чакаў нарад міліцыі. Чалавека ўзялі за... вымаганне. І нічога ён не змог даказаць. Зараз сядзіць у зоне.

— Такога не можа быць!

— Можа, — адказаў Андрэй са спакойнай упэўненасцю.

Я зразумеў, што ён сапраўды гаворыць праўду, таму што хлусіць яму не было ніякага сэнсу.

**Па матэрыялах крымінальнай справы.** *Ехаў хлопец на веласіпедзе. І ішоў сваёй дарогай стары. Нейкім чынам іх шляхі перакрыжаваліся — гэта значыць веласіпедыст выпадкова наляцеў на старога. На няшчасце, стары памёр ад удару. Хлопец пайшоў пад суд. Як нявесела жартавалі міліцыянеры, яны не ведалі, ці то веласіпед браць пад варту, як галоўнага віноўніка, ці то хлопца. Жарты жартамі, а тэрмін хлопец атрымаў немалы.*

ТАК, СЯДЗЯЦЬ У ЗОНАХ, знемагаюць ад суму і гультайства, носяць крыўду на ўвесь белы свет, калечацца маральна, набываюць цэлыя букеты цяжкіх хвароб тыя, хто ў звычайным жыцці былі нармальнымі людзьмі і, учыніўшы, часам ненаўмысна, пад ціскам абставін, якую-небудзь правіннасць, трапілі пад караючы меч Феміды. Трэба заўважыць, што Феміда гэта ўяўляецца даволі злоснай асобай. Менавіта не ўраўнаважанай і справядлівай багіняй, а шалёнай, разлютаванай фурыяй, якая сячэ мячом з-за пляча і па ўсіх, без асаблівага разбору, галовах. Чаму так адбываецца? Хто вінаваты ў тым, што вялікая маса людзей знявольваецца і затым утрымліваецца ў зонах, дарэчы, за кошт падаткаплацельшчыкаў, замест таго, каб выплаціць дзяржаве ці пацярпеўшаму штраф і, задумаўшыся над сваімі паводзінамі, застацца дома, на рабоце, у сям'і і ў грамадстве. Тым больш, калі злачынства ўчынена першы раз. Зона ж — гэта як выпаленае таўро, яно застаецца на чалавеку на ўсё жыццё. А адносіны нашага грамадства да тых, хто быў «там», вядомыя — тайны страх і незразумелая пагарда. Чаго пагарджаць, калі ў любое імгненне абсалютна ў кожнага можа здарыцца ў жыцці такая падзея, якая пакалечыць яго горш за любую хваробу. Дарэчы, аб хваробах.

— Хварэюць у зонах «па-чорнаму», — сказаў Андрэй. — Лекаў няма, нікому да хворых ніякай справы...

— Ты пра каросту раскажы, — параіў інспектар.

— Кароста гэта не хвароба, — махнуў рукой Андрэй. — Гэта так, між іншым. Там людзі на яе нават увагі не звяртаюць. Ёсць іншыя хваробы, ад якіх проста гніюць, у прамым сэнсе слова. А што робіцца ў СІЗО на вул. Валадарскага? Там жа ў камеры дыхаць няма чым, столькі людзей. Спяць па чарзе, пазменна. А справы ў большасці смешныя, яйка выедзенага не вартыя. Сядзелі б гэтыя мужыкі да суда дома па падпісцы аб нявыездзе і нікуды б не дзеліся. Дык не, напхаюць у ізалятар і мораць там, як прусакоў. Тое ж самае ў зоне. Таму так і хварэюць.

— А ты ў зоне хоць аднаго «крутога» бандыта бачыў? — спытаў у яго Жукавец. — Раскажы карэспандэнту, яму гэта цікава.

— Якія там «крутыя»? Там толькі драбяза бандыцкая адседжваецца. «Крутыя» вунь на «мерседэсах» раз'язджаюць і робяць свае справы. А з зонай у іх свае адносіны.

— Якія? — пацікавіўся я.

— Ну якія? Прыедзе «круты» да начальніка зоны, заключыць з ім дагавор: я табе — крэдыт і матэрыялы, а твае зэкі займаюцца вытворчасцю.

— Як гэта?

— А так. Бізнес, — коратка патлумачыў Андрэй.

У выйгрышы аказваюцца ўсе: і навапечаны дабрачынец, і начальнік калоніі, і самі зняволеныя, таму што ім даецца работа, якая цяпер у калоніях стала дэфіцытам. А як нармальнаму чалавеку, ізаляванаму ад знешняга свету, абысціся без работы, каб не звар'яцець ад безвыходнасці і вымушанага беспрацоўя? З крымінальнікамі, зразумела, ім працаваць якраз нельга, нават гонар не дазваляе. Але я ні пра іх вяду гаворку, а пра тых, хто мог бы застацца дома і на сваім рабочым месцы стараннай працай загладзіць віну.



ВЕЛЬМІ ВЯЛІКІ ПРАЦЭНТ зняволеных складаюць тыя, хто не плаціць аліменты. Ну ёсць, відаць, сярод іх адпетыя падонкі, па якіх, як кажуць, «турма плача». Але ж большая частка сядзіць, па словах саміх жа інспектараў, зусім дарэмна! У краіне беспрацоўе, адкуль браць грошы на аліменты, калі заводы стаяць і людзі застаюцца без сродкаў да існавання? І што зменіцца, калі гэты самы «ненаўмысны» аліментшчык адбудзе тэрмін? Каму ад гэтага якая карысць? Так, глядзіш, знайшоў бы на волі работу, штосьці б вырашылася ў станоўчы бок. Дык не, яго туды ж, у турму, і сядзіць ён там, лайдачыць, на казённым хлебе, губляе час і надзею.

Яшчэ большы працэнт так званых «несуноў». Прычыны тыя ж: завод стаіць, зарплату не плацяць. Людзі цягнуць з прадпрыемства хоць што-небудзь, каб прадаць і такім чынам зарабіць на жыццё. Вядома, гэта злачынства. Вядома, за гэта прадугледжана пакаранне. І гэта правільна. Але правільна толькі напалову. Таму што, па словах аднаго з інспектараў, садзіць чалавека ў турму «за шклянку ацэтону», няправільна і жорстка.

Пагадзіцеся, чуць аб тым, што закон у нас далёкі ад дасканаласці, ад саміх абаронцаў закона — гэта ўражвае. Вось, аказваецца, у чым прычына залішняй строгасці нашага правасуддзя — у недасканаласці заканадаўчай базы.

АСОБНАЙ РАЗМОВЫ заслугоўвае тэма аб тым, што чакае зняволенага пасля адбыцця тэрміну. У многіх праблемы толькі тут і пачынаюцца.

Першае, самае асноўнае пытанне — гэта жыллё і прапіска. Па існуючаму заканадаўству, калі чалавек прыгавораны на тэрмін больш за шэсць месяцаў, ён аўтаматычна пазбаўляецца прапіскі. Яшчэ раз падкрэсліваю — прапіскі. Але не жылля. Як быццам бы. А што бывае на самай справе?

Добра, калі чалавек вярнуўся і ў яго дома ўсё ў парадку, усе члены сям'і (абавязкова ўсе) не супраць яго прапіскі, і ён вырашае гэту праблему станоўча. Дарэчы, тут міліцыя вельмі дапамагае, і, як правіла, новая прапіска атрымліваецца даволі хутка.

Але існуе другі бок гэтага пытання. Часам, пакуль чалавек адбывае пакаранне, яго адзіны сваяк (вельмі часта гэта састарэлы) памірае. У гэтым выпадку выканком забірае кватэру сабе, і той, хто вяртаецца, ужо ніякім чынам не зможа атрымаць яе назад. Мала таго, яго ніхто не прапіша. І вось фактычна чалавек становіцца бамжом. Дзе элементарная справядлівасць? Дзяржава пазбавіла яго толькі прапіскі — штампіка ў пашпарце, а ў выніку ён страціў самае галоўнае — жыллё. Нонсенс, абсурд, дзікасць. Паводле слоў інспектараў, раней гэта адбывалася ўсюды і заўсёды. Цяпер, дзякуючы прыватызацыі, сітуацыя палепшылася, але папранейшаму такія выпадкі маюць месца. І яны зусім не рэдкасць.

— Вось, паглядзіце справу, — працягнуў мне папку старшы інспектар Жукавец.

Я ўзяў папку, пагартаў. Хлопец 1973 года нараджэння, за хуліганства трапіў у калонію. Калі вярнуўся, яго маці, алкагалічка, адмовілася яго прапісаць. Хлопец апынуўся на вуліцы.

— Дзе ён цяпер, не ведаю, — сказаў інспектар. — Прапаў некуды. Напэўна, зноў што-небудзь утворыць, зноў трапіць у зону. А шкада, добры хлопец...

— І што, вы нічым не можаце дапамагчы такім, як ён?

— А чым мы дапаможам? Спрабуем дапамагчы з прапіскай, з працаўладкаваннем, ды, як вы самі разумееце, нашы магчымасці вельмі абмежаваныя.

Другое балючае пытанне — працаўладкаванне. Гэта ўсеагульная асобная праблема, і закранае яна тых, хто вяртаецца з месцаў пазбаўлення волі. Раней у гэтым плане было лягчэй: існавала адпрацаваная сістэма, калі адзін званок на прадпрыемства даваў чалавеку рабочае месца і, пры неабходнасці, ложак у інтэрнаце. Цяпер таго і блізка няма. Кіраўнікі прадпрыемстваў сваіх людзей не могуць забяспечыць паўнацэннай работай, а пра тых, хто адседзеў, літаральна не хочуць і слухаць.

— У прынцыпе, — гаворыць Жукавец, — хто хоча знайсці работу, той яе знаходзіць. Іншая справа, што многіх не задавальняе тое, што ім прапаноўваюць, вось і мітусяцца, шукаюць чагосьці лепшага.

— Ты знайшоў сабе работу? — спытаўся я ў Андрэя.

— Так, спачатку хадзіў па канторах, шукаў. Ды толькі дзе там! Як даведку аб вызваленні дырэктару пакажу, дык ён дзвюма рукамі ад мяне адмахваецца. Не ведаю, што б і рабіў, дзякуй, знаёмыя дапамаглі.

Я падумаў, што пры цяперашнім становішчы на рынку працы добра, што хоць не існуе артыкула аб дармаедстве. Можна толькі здагадвацца, колькі новых этапнікаў неадкладна вярнулася б у зоны па гэтаму артыкулу.

І яшчэ адно пытанне — гэта сам нагляд за былымі асуджанымі. Устанаўліваецца ён або ў калоніі за парушэнне рэжыму ўтрымання, або ўжо на волі за парушэнне грамадскага парадку на тэрмін ад шасці месяцаў да трох гадоў. Заключаецца ён у тым, што паднаглядны раз у месяц прыходзіць у інспекцыю адзначацца. А затым зноў знікае на месяц. Дык, даруйце, што ж гэта за нагляд? І ў чым яго сэнс?

Як мне шчыра сказаў адзін з інспектараў, гэты нагляд наогул не патрэбны. З аднаго боку, чалавек адбыў сваё «там», навошта яго яшчэ і на волі тузаць? Нават для таго, каб выехаць за межы горада (напрыклад, на дачу), неабходна з'явіцца ў інспекцыю і атрымаць так званы маршрутны ліст, г. зн. дазвол на выезд. Практычна гэтыя меры зусім нічога не даюць, фактычна ж — лішняя валакіта з паперкамі, нервознасць і зразумелае азлабленне паднаглядната.

ДЫК УСЁ Ж чаму адбываецца так, што зоны перанаселены? Менавіта такое пытанне я задаў чалавеку, праз рукі якога ўжо шмат гадоў праходзяць як небяспечныя рэцыдывісты, так і тыя, да каго правасуддзе магло б быць крыху мякчэйшым.

— Таму што трэба прыняць новы Крымінальны кодэкс, — адказаў старшы інспектар. — Трэба мяняць устарэлыя артыкулы і пункты артыкулаў на новыя, больш дасканалыя, адаптаваныя да цяперашніх цэн, умоў жыцця. Час спыняць паток гэтых дробных злачынцаў, якія запоўнілі следчыя ізалятары і калоніі. Інакш ні да чога добрага мы не прыйдзем.

І ў заключэнне артыкула кароткая вытрымка з расказа Андрэя.

— Карацей, прыйшоў начальнік атрада і сказаў, што хутка будзе амністыя. Давайце, маўляў, працуйце, не парушайце рэжым — і палова пойдзе на волю. Ну, усе стараліся, працавалі, ніводнага парушэння за месяц не было. Прыходзіць начальнік, кажа, не будзе ніякай амністыі. Дэпутаты Вярхоўнага Савета на нейкія там канікулы раз'ехаліся. Калі б гэтыя дэпутаты чулі, як пра іх гаварылі ў зоне... — і Андрэй ціха прамармытаў некалькі слоў, якія я прывесці не магу, але аб сэнсе якіх няцяжка здагадацца.

**Сяргей КУЛАКОЎ.**

ДАСЛОЎНА

***Валерый ЦІХІНЯ,***

***старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, доктар юрыдычных навук, прафесар***

# Нельга пускаць насустрач два цягнікі па адной лініі

## *Некаторыя развагі з нагоды маючага адбыцца рэфарміравання канстытуцыйнага ладу ў рэспубліцы*

ПРЭЗІДЭНТАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ унесена ў Вярхоўны Савет прапанова аб правядзенні рэферэндуму па змяненню і дапаўненню Канстытуцыі. У паведамленні прэс-цэнтра кіраўніка дзяржавы па гэтаму пытанню сказана, што цяперашняя Канстытуцыя прымалася ў «спешцы», «келейна», што ў многім вызначыла яе буйныя заганы і супярэчнасці.

Давайце разбяромся, ці так гэта на самай справе. Прынятая ў сакавіку 1994 года Вярхоўным Саветам у адпаведнасці з дэмакратычнай працэдурай, практыкуемай у многіх краінах свету, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь стала пятай па ліку Канстытуцыяй нашай дзяржавы і першай Канстытуцыяй суверэннай Беларусі. Яе асноўнае адрозненне ад дзеючай раней Канстытуцыі 1978 года ў тым, што яна легалізавала пераход нашага грамадства ад каманднa-адміністрацыйнай сістэмы ўлады да кіравання грамадствам пры дапамозе Закона. Упершыню ў гісторыі Беларусі на канстытуцыйным узроўні замацавана ідэя прававой дзяржавы.

Цяперашняя Канстытуцыя ўвабрала ў сябе ўсё лепшае, што было напрацавана тэорыяй і практыкай канстытуцыйнага будаўніцтва краін з устойлівымі дэмакратычнымі традыцыямі. Яна замацавала ў канкрэтных нормах шэраг агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права. Рэспубліка Беларусь абвешчана дэмакратычнай дзяржавай, у якой чалавек з'яўляецца вышэйшай каштоўнасцю грамадства, забеспячэнне правоў і свабод грамадзян ёсць вышэйшая мэта дзяржавы.

Дзеючая Канстытуцыя атрымала станоўчую ацэнку міжнародных экспертаў у галіне канстытуцыйнага права. Мы маем права ганарыцца сваёй Канстытуцыяй!

У сувязі з гэтым хачу спыніцца на адным з найбольш распаўсюджаных довадаў, прыведзеных у апошні час у друку, а менавіта робіцца спасылка на экспертнае заключэнне Еўрапейскай камісіі Савета Еўропы адносна раздзелаў Канстытуцыі, што датычацца паўнамоцтваў Прэзідэнта і Вярхоўнага Савета, у якіх быццам бы дапушчаны адхіленні ад прынцыпа падзелу ўладаў.

Па-першае, гэта заключэнне не камісіі, а аднаго эксперта — Ганны Мілянковай. Па-другое, па гэтых жа пытаннях ёсць заключэнне іншага эксперта Еўрапейскай камісіі — Кястутаса Лапінскаса, якое ўтрымлівае іншыя высновы. Па-трэцяе, заключэнні названых экспертаў атрыманы па просьбе Беларускага інстытута заканадаўства і дзяржаўнага будаўніцтва ў сувязі з разглядам у Канстытуцыйным судзе спраў аб адпаведнасці Канстытуцыі законаў аб Вярхоўным Савеце і аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, дзе ў якасці эксперта выступаў дырэктар гэтага інстытута Антон Матусевіч. Так што заява Прэзідэнта, зробленая 15 жніўня г.г. на сустрэчы з грамадскасцю г. Гродна і Гродзенскай вобласці аб атрыманні і ўтойванні Вярхоўным Саветам заключэння эксперта Ганны Мілянковай (таксама названае Прэзідэнтам як заключэнне Еўрапейскай камісіі), мякка кажучы, не адпавядае сапраўднасці. Але калі Прэзідэнта ў гэтым выпадку маглі падвесці прыдворныя юрысты, дык Мікалая Сянчышчава, які апублікаваў на старонках «Советской Белоруссии» за 21 жніўня 1996 года артыкул «Незалежныя заходнія эксперты лічаць цяперашнюю Канстытуцыю краіны даволі недасканалай», ніхто не падводзіў. Мяркуючы па зместу артыкула, яго аўтар асабіста азнаёміўся з заключэннямі абодвух экспертаў. І тым не менш, заключэнне Ганны Мілянковай пададзена ім як заключэнне не аднаго аўтара, а калектыву аўтараў. Спаслаўшыся на заключэнне Кястутаса Лапінскаса і працытаваўшы тую яго частку, дзе гаворыцца аб надзвычай шырокіх кантрольных паўнамоцтвах Вярхоўнага Савета, якія могуць разглядацца як умяшанне ў сферу выканаўчай улады, аўтар артыкула змаўчаў аб тым, што менавіта гэтую норму Закона аб Вярхоўным Савеце Канстытуцыйны суд прызнаў неканстытуцыйнай. Відаць, цяжка быць у ладах з аб'ектыўнасцю, калі пішаш на зададзеную тэму.

Нагадаю чытачам, што Канстытуцыйны суд, разгледзеўшы справы аб канстытуцыйнасці законаў аб Вярхоўным Савеце і аб Прэзідэнце, прызнаў не адпаведным Канстытуцыі шэраг іх нормаў, у тым ліку і тых, якія былі названы ў прапановах Прэзідэнта як нормы, што абмяжоўваюць яго прававы статус. Прымаючы рашэнні па гэтых справах, суд таксама ўлічыў і высновы названых экспертаў Еўрапейскай камісіі. Нават на прыкладах гэтых двух законаў, прынятых Вярхоўным Саветам, бачна, наколькі «абгрунтаваная» заява прэзідэнцкага боку аб тым, што «Канстуцыйны суд з'яўляецца дадаткам Вярхоўнага Савета».

Што ж датычыцца «спешкі», «келейнасці» пры прыняцці Канстытуцыі, давайце прыгадаем хоць бы некаторыя факты з гісторыі яе падрыхтоўкі. За невялікім па аб'ёму законам стаіць вялізная, сапраўды тытанічная чатырохгадовая праца вялікай колькасці людзей — спецыялістаў у галіне права, эканомікі, паліталогіі, іншых галін грамадскіх навук — вучоных і практыкаў, дэпутатаў, членаў канстытуцыйнай камісіі і створаных пры ёй рабочых груп. У ходзе распрацоўкі праекта Канстытуцыі было падрыхтавана каля трох дзесяткаў яе варыянтаў. У друку публікаваліся тры праекты Канстытуцыі, што дазволіла правесці іх шырокае і грунтоўнае абмеркаванне, прааналізаваць і ўлічыць паступіўшыя заўвагі і прапановы. Гэта быў сапраўдны навуковы пошук лепшага (аптымальнага) варыянта Канстытуцыі. У архівах Вярхоўнага Савета захоўваюцца матэрыялы, у якіх змяшчаюцца тысячы водгукаў, рэцэнзій, паправак і прапаноў у праект Канстытуцыі, паступіўшых ад розных органаў улады, навуковых і навучальных устаноў, міжнародных арганізацый, прававых цэнтраў блізкага і далёкага замежжа, ад радавых грамадзян. Таму рознага роду разважанні аб недасканаласці, недастатковай падрыхтаванасці Канстытуцыі, а тым больш келейнасці пры яе прыняцці не вытрымліваюць крытыкі. Сама меней яны несур'ёзныя ці нават нядобрасумленныя. У той жа час ёсць усе падставы гаварыць аб келейнай падрыхтоўцы новай рэдакцыі Канстытуцыі. Якія вучоныя, спецыялісты ў галіне права і іншых галін ведаў у ёй удзельнічалі, нікому невядома. А краіна павінна ведаць сваіх «герояў». Як сказана ў Старым запавеце, «усё тайнае аднойчы стане яўным». І ўжо сапраўды парадоксам з'яўляецца тое, што ад гэтай работы аказаўся адхіленым Вярхоўны Савет, які з'яўляецца, па Канстытуцыі, вышэйшым прадстаўнічым і адзіным заканадаўчым органам рэспублікі. Цяжка ўявіць, што ўсё гэта адбываецца ў цэнтры Еўропы!

Ствараючы прынцыпова новую, цяпер дзеючую Канстытуцыю, яе аўтары зыходзілі з неабходнасці знайсці такую форму дзяржаўнасці, якая, улічваючы нацыянальныя асаблівасці Беларусі, яе гістарычнае мінулае і сённяшняе, была б здольна арганізаваць у краіне дэмакратычны працэс, які прытрымліваецца Закона, а не асабістых схільнасцей чарговага кіраўніка...

Ці азначае ўсё гэта, што наша Канстытуцыя юрыдычна бездакорная, дасканалая? Не, не азначае, таму што ідэальных канстытуцый у свеце не было і няма. Напрыклад, не ўсё так ужо гладка ў старэйшай канстытуцыі свету — Канстытуцыі ЗША, якая перыядычна (нярэдка гэтыя перыяды складаюцца ў дзесяцігоддзі) дапаўняецца папраўкамі. Але яе ўжо звыш 200 гадоў не мяняюць! І ў гэтым мудрасць амерыканцаў, якія ставяцца з глыбокай павагай да свайго Асноўнага закона.

Галоўнае для любой канстытуцыі, у тым ліку і для нашай — яе стабільнасць. Таму, перш чым у яе ўрывацца, трэба усё старанна і шмат разоў узважыць і абдумаць. Бо не выпадкова прадугледжаны ўскладнены парадак унясення ў Канстытуцыю змяненняў і дапаўненняў.

Калі падыходзіць да пытання чыста фармальна, дык Прэзідэнт, уносячы ў Вярхоўны Савет прапанову аб правядзенні рэферэндуму па змяненню і дапаўненню Канстытуцыі, дзейнічаў у адпаведнасці з яе нормамі. Але ці трэба гэта рабіць цяпер? Думаю, што не. Мінула ўсяго два гады, як Аляксандр Лукашэнка, з'яўляючыся дэпутатам Вярхоўнага Савета і членам Канстытуцыйнай камісіі, галасаваў за прыняцце гэтай Канстытуцыі. Будучы выбраным у адпаведнасці з ёй Прэзідэнтам краіны, ён прысягаў на вернасць дзеючай Канстытуцыі: заяўляў, што валодае царскімі паўнамоцтвамі.

Што такое два гады? Імгненне гісторыі. І за гэтае імгненне Канстытуцыя не паспела нават запрацаваць як след. Толькі пачаўся заканатворчы працэс па стварэнню на яе аснове новай заканадаўчай базы. Перш за ўсё, трэба прыняць усе законы, прама ўказаныя ў Канстытуцыі. Па-другое, трэба падрыхтаваць на аснове Канстытуцыі зусім новыя заканадаўчыя акты, што рэгулююць розныя грамадскія адносіны, якія спрыялі б станаўленню ў нашай краіне інстытутаў грамадзянскага грамадства. Напрыклад, дагэтуль у поўнай меры заканадаўча не ўрэгуляваны пытанні забеспячэння канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян, не створана неабходнае прававое поле для эфектыўнай эканамічнай дзейнасці і правядзення мэтанакіраванай сацыяльнай палітыкі, для паўнакроўнага развіцця органаў мясцовага кіравання і самакіравання. Па-трэцяе, мы сёння не можам гаварыць пра эфектыўную работу Канстытуцыі яшчэ і таму, што многія яе палажэнні (што датычацца перш за ўсё правоў і свабод грамадзян) не выконваюцца. Прыкладаў таму нямала. Так, пагалоскай стала пастаяннае парушэнне патрабаванняў артыкула 34 Канстытуцыі, які гарантуе права грамадзян на атрыманне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным і міжнародным жыцці. Далёка не ўсё добра ў нас таксама з забеспячэннем працоўных, сацыяльных і іншых правоў грамадзян.

Ці ж усё гэта не гаворыць аб тым, што вялізны патэнцыял, закладзены ў Канстытуцыі, застаецца як у заканадаўчым плане, так і ва ўмовах нашай рэчаіснасці ў значнай частцы незапатрабаваным і нерэалізаваным? У сувязі з гэтым спробу Вярхоўнага Савета распрацаваць механізм няўхільнасці дзеяння закона трэба не асуджаць, а вітаць. Мудры Тацый у свой час справядліва заўважыў, што «гібель дзяржавы пачынаецца з краху законаў». Нам у Беларусі трэба баяцца прававога Чарнобыля.

Што ж вымушае Прэзідэнта мяняць Канстытуцыю? Ці абгрунтаваныя яго прапановы? Што за імі стаіць? Разгледзім гэта на канкрэтных прыкладах. У інтэрв'ю «Народной газете» за 6 жніўня 1996 года Прэзідэнт заявіў, «што з-за шэрага аб'ектыўных прычын і новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, і многія законы ў нейкай ступені стрымліваюць стварэнне і наладжванне рыначнага механізма гаспадарання, рэалізацыю рэальнай палітыкі Прэзідэнта». Ці так гэта? Звернемся да артыкулаў Канстытуцыі, што датычацца сферы эканомікі. Артыкул 13 Канстытуцыі гаворыць, што «дзяржава прадастаўляе ўсім роўныя правы для ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці, акрамя забароненай законам, і гарантуе роўную абарону і роўныя ўмовы для развіцця ўсіх формаў уласнасці. Дзяржава ажыццяўляе рэгуляванне эканамічнай дзейнасці ў інтарэсах чалавека і грамадства. Законам могуць быць вызначаны аб'екты, якія знаходзяцца толькі ва ўласнасці дзяржавы, а таксама замацавана выключнае права дзяржавы на ажыццяўленне асноўных відаў дзейнасці». Як бачна са зместу гэтай канстытуцыйнай нормы, у ёй няма нічога, што магло б перашкаджаць стварэнню рыначнага механізма гаспадарання. Не перашкаджаюць гэтаму і нормы артыкула 44 Канстытуцыі, які гаворыць аб праве ўласнасці. Наогул у нас ёсць канстытуцыйная база для правядзення рэформаў, у тым ліку эканамічных. Трэба толькі ад слоў пераходзіць да справы, не займацца «гарбачоўшчынай».

Прэзідэнтам ставіцца пытанне аб стварэнні ў рэспубліцы двухпалатнага парламента, які складаўся б з палаты прадстаўнікоў і сената. Прэзідэнт павінен памятаць, што, яшчэ з'яўляючыся дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання і членам Канстытуцыйнай камісіі, ён і іншыя члены гэтай камісіі ўсебакова прааналізавалі гэтую ідэю і прыйшлі да высновы аб яе непрыдатнасці і непаўнацэннасці для нашай невялікай унітарнай дзяржавы. На карысць такой высновы таксама гавораць прыклады многіх малых еўрапейскіх (і не толькі еўрапейскіх) дзяржаў, якія цудоўна абыходзяцца аднапалатнымі парламентамі. Ці гэтым нам трэба выдзяляцца сярод іх? Можа, мы абыдземся без сваіх дамарослых сенатараў?

Не магу не паўтарыцца, рызыкуючы быць абвінавачаным у зацікаўленасці (але ў зацікаўленасці дзяржаўнай) з нагоды прапаноў Прэзідэнта аб рэфарміраванні Канстытуцыйнага суда. Яны вядомыя. Згодна з імі, суд фарміруецца Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам на парытэтных пачатках. Пры гэтым Прэзідэнт уносіць кандыдатуру яго старшыні, голас якога з'яўляецца рашаючым пры роўнай колькасці галасоў «за» і «супраць». Скарачаецца колькасць суб'ектаў, якія маюць права звароту ў суд. Адначасова суд пазбаўляецца права ўзбуджаць справы па ўласнай ініцыятыве. Працэдура прыняцця канчатковых рашэнняў суда аб адпаведнасці Канстытуцыі законаў і іншых нарматыўных актаў настолькі ўскладнена, што робіць даволі праблематычным наогул іх прыняцце.

І што ж пасля такога, з дазволу сказаць, рэфарміравання застаецца ад незалежнасці і аўтарытэту суда як органа канстытуцыйнага кантролю? Па сутнасці нічога. Вось такі Канстытуцыйны суд сапраўды стане прыдаткам кіраўніка выканаўчай улады. І калі такое здарыцца, дык нават чорныя мантыі суддзяў не схаваюць аблічча «белай вароны» такога суда на фоне канстытуцыйных судоў Еўропы і свету. І наўрад ці такі «кішэнны» суд будзе карыстацца павагай у свеце.

Як старшыня суда адзначу, што ў Канстытуцыйнага суда Беларусі няма іншых інтарэсаў, акрамя інтарэсаў народа. Пра гэта сведчаць яго рашэнні, апублікаваныя ў друку. Чытайце іх.

Ёсць і іншыя аб'ектыўныя прычыны, па якіх не варта спяшацца з унясеннем змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю. Нельга не ўлічваць арганічнай цэласнасці, унутранай збалансаванасці Канстытуцыі, узаемасувязі і ўзаемазалежнасці яе палажэнняў. Уварванне са змяненнямі і дапаўненнямі ў тыя ці іншыя яе раздзелы ці нормы непазбежна прывядзе да разбалансаванасці Асноўнага закона. А гэта тоіць негатыўныя вынікі для нармальнага развіцця рэгулюемых Канстытуцыяй грамадскіх адносінаў і можа спрыяць стварэнню крызісных сітуацый у дзяржаве і грамадстве. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць сумны прыклад Расіі, дзе паток паправак, што ўносяцца ў яе Канстытуцыю, разбалансаваў яе настолькі, што яна перастала быць цэласным дакументам і кожны разумеў і тлумачыў яе па-свойму. Гэта разам з іншымі фактамі дэстабілізавала абстаноўку ў Расіі і ў канчатковым выніку прывяло да трагічных падзей 1993 года. Памятаючы пра гэта, ці не лепш вучыцца на чужых памылках, чым самім іх паўтараць?

І яшчэ адно меркаванне. Сёння ў рэспубліцы ідзе працэс фарміравання новай беларускай дзяржаўнасці, закладваюцца асновы канстытуцыйнага ладу. Прыняты законы аб Вярхоўным Савеце, аб Прэзідэнце, аб Кабінеце Міністраў, аб мясцовым кіраванні і самакіраванні, аб выбарах і шэраг іншых. Непрадуманае ўварванне ў гэты працэс можа толькі сур'ёзна дэфармаваць дзяржаўнае будаўніцтва.

Разам з тым, можна пагадзіцца з думкай Прэзідэнта аб неабходнасці «ўхілення няпэўнасці і недакладнасцей у тэксце Канстытуцыі, што датычацца прынцыпу падзелу ўладаў, стварэння эфектыўнага механізма іх узаемадзеяння...». Зрабіць гэта, аб чым сведчыць парламенцкая практыка многіх краін свету, можна шляхам афіцыйнага тлумачэння Вярхоўным Саветам тых нормаў Канстытуцыі, што неадназначна разумеюцца. Так, Канстытуцыйны суд яшчэ ў лютым 1996 года ўнёс у Вярхоўны Савет прапанову аб талкаванні пункта 1 артыкула 100 Канстытуцыі, які ў агульных словах гаворыць аб мерах, прымаемых Прэзідэнтам па абароне суверэнітэту, нацыянальнай бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, забеспячэнню палітычнай і эканамічнай стабільнасці, захаванню правоў і свабод грамадзян. Гэты пункт у сувязі з недакладнасцю яго фармулёўкі выклікае сёння шматлікія спрэчкі сярод прадстаўнікоў розных галін улады.

І нарэшце, давайце не будзем хітраваць. Кожнаму чалавеку з цвярозым розумам зразумела, што спробы рэвізаваць дзеючую Канстытуцыю накіраваны перш за ўсё на ўзмацненне выканаўчай улады за кошт аслаблення астатніх галін улады, што само па сабе неправамерна. Гэта небяспечныя спробы. Непрадказальныя іх наступствы. Гістарычны вопыт з драматычнай паслядоўнасцю пацвярджае непаўнацэннасць неабмежаванай улады, незалежна ад высокіх мэтаў яе ўстанаўлення. Такая ўлада ніколі не прыносіла дабра людзям... Мы павінны ісці не да дыктатуры, а да цвёрдай законнасці, устойлівага правапарадку.

Акрамя таго, нельга канстытуцыйную законнасць шукаць на шляхах канфрантацыі: пускаць насустрач адзін аднаму два цягнікі па адной лініі (адзін цягнік — гэта заканадаўчая ўлада, другі цягнік — гэта выканаўчая ўлада). Давайце думаць пра вынікі!

Ёсць нямала і іншых довадаў у абарону дзеючай Канстытуцыі, прыводзіць якія не дазваляюць рамкі газетнага артыкула. У заключэнне не магу не падзяліцца з чытачамі сваёй трывогай з нагоды глыбокага крызісу, які паразіў сёння практычна ўсе сферы жыцця нашага грамадства. У такіх умовах замах на Асноўны закон, па майму глыбокаму перакананню, можа выклікаць сур'ёзны канстытуцыйны крызіс і яшчэ больш ускладніць цяперашнюю абстаноўку ў рэспубліцы. Таму ўвядзенне мараторыя на Канстытуцыю хоць бы на два-тры бліжэйшыя гады пайшло б толькі на карысць маладой беларускай дзяржаве.

Падзеі, якія адбываюцца ў апошні час у рэспубліцы, прымушаюць сур'ёзна задумацца над пытаннем: ці адбудзецца Беларусь як дэмакратычная прававая дзяржава?

# КАБ ГАЗЕТА БЫЛА ЯКАСНАЙ...



**ГЭТЫ НУМАР «Звязды», як і многія-многія папярэднія, вы, паважаныя чытачы, маеце магчымасць трымаць у руках не толькі дзякуючы працы калектыву рэдакцыі, але, прынамсі, яшчэ дзвюх службаў — цэха прыёму газетных палос Рэспубліканскай міжгародняй тэлефоннай станцыі і мантажнаму аддзяленню газетнага цэха Беларускага дома друку. Яны існуюць акурат 30 гадоў — з 1 верасня 1966 года.**

Начальнік цэха прыёму і перадачы газетных палос Віктар Варанкоў расказаў нам, што сёння яго служба вырабляе фотакопіі 83 беларускіх газет — дзяржаўных і камерцыйных, а таксама 6 маскоўскіх выданняў.

У свой час, у 1966 годзе, менавіта з-за таго, што цэнтральныя газеты — «Правда», «Известия» — з-за маруднасці пошты прыходзілі ў рэгіёны ў лепшым выпадку толькі праз дзень пасля выхаду, і было прынята рашэнне аб стварэнні гэтага цэха. Зараз ён аснашчаны імпартным абсталяваннем, камп'ютэрнай тэхнікай, асвойваецца колерадзяленне. У планах — устаноўка абсталявання, якое дазволіць з Мінска па фотатэлеграфу перадаваць газеты ў абласныя друкарні, бо выданні і да гэтага часу дастаўляюцца ў глыбінку аўтатранспартам. Але гэта — у планах, а пакуль калектыў з 12 чалавек штомесячна дае 400 мільёнаў рублёў даходу.

**На здымку:** работнікі цэха прыёму і перадачы газетных палос Лідзія Шульга (працуе з першага дня), Людміла Кавалеўская, Вячаслаў Рускіх, начальнік цэха Віктар Варанкоў, вядучы інжынер Дзмітрый Вашкевіч.

Ні разу за 30 гадоў работы не дапусцілі зрыву выхаду якой-небудзь газеты супрацоўнікі мантажнага аддзялення газетнага цэха, які быў створаны 1 верасня 1966 года, калі выдавецтва перайшло з так званага высокага друку на больш якасны — афсетны. У тым, што гэты нумар «Звязды» своечасова ўбачыў свет, вялікая заслуга майстра Галіны Ракач (справа) і мантажысткі Наталлі Ждановіч.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



## КІРГІЗІЯ ЗА ПАШЫРЭННЕ СУВЯЗЕЙ З БЕЛАРУССЮ

**З нагоды святкавання Дня незалежнасці Рэспублікі Кыргызстан у пасольстве гэтай краіны адбылася сустрэча з журналістамі.**

Разам з Барубекам Ашыравым, паслом Кыргызстана, у размове ўдзельнічалі дэпутат парламента, старшыня Бішкекскага гарадскога кенеша дэпутатаў Іса Такоеў і кіраўнік справамі мясцовага самакіравання сталіцы Сабырбек Байназараў. Яны расказалі аб сённяшнім дні іх краіны, палітычных, рыначных эканамічных і сацыяльных пераўтварэннях.

Лейтматыў размовы — Кыргызстан вельмі зацікаўлены ў пашырэнні шматграннага супрацоўніцтва з Беларуссю, у прыватнасці, ва ўсталяванні пабрацімскіх сувязей паміж сталіцамі дзвюх дзяржаў.

З мэтай аднавіць былыя кантакты і прыехалі ў Мінск прадстаўнікі Бішкека. Яны былі прыняты мэрам беларускай сталіцы Уладзімірам Ярмошынам. Бакі дамовіліся недзе ў кастрычнікулістападзе г. г. падпісаць адпаведнае пагадненне аб супрацоўніцтве гэтых гарадоў.

Перспектыўнымі абяцаюць стаць прамыя сувязі паміж абласцямі дзвюх краін. Напрыклад, ужо пачалі супрацоўнічаць на рэгіянальным узроўні Гродзенская вобласць і Джалал-Абадская. Гродзенцы, дарэчы, зацікаўлены ў пастаўках тытуню, бавоўны, рэдказямельных металаў з Кіргізіі.

Пасол гэтай краіны паведаміў нам, што навукоўцы яго краіны прапанавалі наладзіць аздараўленне пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы з Гомельскай вобласці ва ўмовах высакагорнага клімату. Неўзабаве каля ста чалавек прыедуць у Кіргізію з Беларусі.

Кыргызстан таксама прапаноўвае жыхарам нашай краіны недарагі адпачынак на славутым возеры Ісык-Куль. У пераліку на валюту ЗША пуцёўка ў пансіянаце на беразе возера каштуе прыкладна 100 долараў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ФОНД ПАДТРЫМКІ ПАРЛАМЕНТАРЫЗМУ ПАЧЫНАЕ З КАНКРЭТНЫХ ПРАПАНОЎ

Міністэрствам юстыцыі зарэгістраваны Фонд падтрымкі парламентарызму. Асноўнай мэтай дзейнасці фонду з'яўляецца пашырэнне ідэй парламентарызму, садзейнічанне стварэнню ў рэспубліцы прававой дзяржавы. Заснавальнікамі гэтай грамадскай арганізацыі выступілі дэпутаты Вярхоўнага Савета, вучоныя, прадстаўнікі інтэлігенцыі. Фонд мае намер арганізаваць вывучэнне айчыннага і замежнага вопыту палітычнай, дзяржаўнай дзейнасці, навуковую распрацоўку актуальных для Беларусі палітычных, прававых, сацыяльных праблем, наладзіць абмен эканамічнай, культурнай, навуковай інфармацыяй паміж зацікаўленымі структурамі, арганізаваць правядзенне міжнародных і рэспубліканскіх навуковых сімпозіумаў, канферэнцый, «круглых сталоў» па праблемах развіцця парламентарызму, заснаваць устаноўленую колькасць стыпендый аспірантам і студэнтам ВНУ, якія ажыццяўляюць даследаванні па праблемах гісторыі развіцця парламентарызму, стварыць уласныя інфармацыйна-аналітычныя структуры.

Па ініцыятыве кіраўніцтва Фонду адбылася сустрэча дэпутатаў Вярхоўнага Савета з кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаілам Мясніковічам. Абмяркоўваліся пытанні ўзаемадзеяння Адміністрацыі Прэзідэнта з дэпутатамі Вярхоўнага Савета, ішла гаворка пра маючую адбыцца сесію парламента, аб унесеным Прэзідэнтам на сесію пытанні аб правядзенні рэферэндуму.

Прэзідэнт Фонду Леанід Сечка выклаў пазіцыю фонду па абмяркоўваемых пытаннях. Прадстаўнікі фонду падтрымалі Прэзідэнта ў яго праве ініцыіраваць рэферэндум.

У канструктыўнай гутарцы дэпутаты Васіль Хрол, Пётр Жушма, Віктар Бурак, Валянціна Самусёва, Іван Пашкевіч выказалі свой пункт гледжання на пытанні, якія выносяцца на рэферэндум, абмяняліся думкамі аб мяркуемых змяненнях, што датычацца вышэйшага заканадаўчага органа. У сувязі з гэтым удзельнікі сустрэчы выказалі заклапочанасць лёсам дэпутатаў, якія працуюць і гатовы і далей канструктыўна працаваць на карысць нашага народа. Яны прапанавалі ў выпадку прыняцця паправак да Канстытуцыі прыняць закон аб увядзенні іх у дзеянне і ў гэтым жа законе вызначыць лёс цяперашніх парламентарыяў. Гэта зняло б празмерную напружанасць у вышэйшых эшалонах улады.

Выказаны канкрэтныя прапановы па супрацоўніцтву фонду з выканаўчай уладай, дэпутатаў з Адміністрацыяй Прэзідэнта. Пастаўлена пытанне аб правядзенні на высокім прафесіянальным узроўні экспертызы праектаў законаў нашай дзяржавы. Гэту работу мог бы ўзяць на сябе аналітычны цэнтр Фонду падтрымкі парламентарызму. Ішла гаворка і аб прапанове надаць указам Прэзідэнта сілу законаў. Яе рэалізацыя садзейнічала б перш за ўсё стабілізацыі становішча ў рэспубліцы і зняццю канфрантацыйных момантаў ва ўзаемаадносінах уладаў.

Кіраўнік Адміністрацыі з павагай аднёсся да стварэння Фонду падтрымкі парламентарызму, пажадаў дэпутатам сабраць пад дахам Фонду людзей з вялікім інтэлектуальным патэнцыялам і палітычнай воляй. Міхаіл Мясніковіч выказаў разуменне пазіцыі парламентарыяў і заклікаў дэпутатаў падтрымаць Прэзідэнта ў яго імкненні вывесці рэспубліку з крызісу. Ён выказаў гатоўнасць Адміністрацыі Прэзідэнта да канструктыўнага супрацоўніцтва з дэпутацкім корпусам.

**БЕЛТА.**

## КРЫМІНАЛ

### ЛЁС СТАРШЫНІ АКАЗАЎСЯ РАКАВЫМ

У мінулую нядзелю ў лесе, недалёка ад калгаснага пчальніка, знойдзены труп старшыні калгаса «Ленінскае жыццё» Аляксандра Боксбергера. Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, нябожчык вісеў на суку дрэва даволі высока ад зямлі. Ці ён сам па нейкай прычыне наклаў на сябе рукі, ці нехта звёў з ім рахункі — высвятляюць праваахоўныя органы.

Аляксандр Боксбергер працаваў старшынёй калгаса ўсяго некалькі месяцаў. Да гэтага ён вёў фермерскую гаспадарку, якую пасля свайго выбрання кіраўніком перадаў сыну. Нічога незвычайнага ў яго паводзінах калгаснікі апошнім часам не заўважалі.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**
Рагачоўскі раён.

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ПАГАДНЕННЕ ПАДПІСАНА, АЛЕ ГАРАНТЫЙ ПА-РАНЕЙШАМУ НЯМА

Прэм'ер-міністр Расіі Віктар Чарнамырдзін ацаніў як паспяховыя вынікі перамоў сакратара Савета бяспекі Лебедзя з кіраўніцтвам Рэспублікі Ічкерыя і выказаў гатоўнасць удзельнічаць у рэалізацыі плана па мірнаму ўрэгуляванню ў Чачні.

Ён адзначыў, што падпісаныя 31 жніўня дакументы гарантуюць адмову ад выкарыстання сілы і закладваюць перадумовы для стварэння кааліцыйнага ўрада Чачні. Дакументы адпавядаюць духу і літары праектаў, узгодненых раней на пасяджэннях Савета бяспекі, а ўнесеныя на перамовах змяненні прынцыповага значэння не маюць. У нядзелю прэс-сакратар прэзідэнта Ястржэмбскі заявіў, што дакумент, падпісаны Лебедзем і Масхадавым, патрабуе дадатковага асэнсавання і ацэнкі, паколькі, на думку Ельцына, на перамовах бакі ўнеслі шэраг змяненняў у першапачатковы тэкст.

Начальнік штаба чачэнскіх фарміраванняў пацвердзіў, што калі расійскія войскі, якія засталіся ў Грозным, не пакінуць горад, ваенныя дзеянні ў Чачні адновяцца. У інтэрв'ю замежным журналістам Масхадаў зазначыў, што, нягледзячы на падпісаныя пагадненні аб вывадзе войскаў, у Грозным застаюцца дзве расійскія брыгады. Са свайго боку расійскія вайскоўцы абвінавацілі чачэнскія сілы ў незахаванні тэрмінаў дэмілітарызацыі Грознага.

### ЗНОЎ ВАЯЎНІЧЫ ХУСЕЙН

Злучаныя Штаты лічаць, што дзеянні Садама Хусейна, які накіраваў войскі і танкі ў курдскую зону бяспекі на поўначы Ірака, нельга апраўдаць. Прадстаўнік Белага дома заявіў, што ЗША праводзіць кансультацыю з саюзнікамі і краінамі Блізкага Усходу аб магчымых дзеяннях у адказ. Міністр замежных спраў Вялікабрытаніі назваў ваенныя дзеянні Ірака грубым парушэннем межаў зоны бяспекі.

**Радыё слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Ці падабаецца вам заклік: «Сачы за суседзямі!» Немцам ён спадабаўся. Але не ў сэнсе выхавання «ўзаемашпіёнства», як у недалёкія часы, а ў сэнсе сачыць за кватэрай або домам суседа, калі ён адсутнічае. Справа ў тым, што ў ФРГ кожныя дзве з паловай хвіліны адбываецца кватэрны крадзеж. У мінулым годзе ўсяго іх было больш за 200 тысяч — прырост на 40 працэнтаў. Кампенсацыя ўрону ад гэтых крадзяжоў абышлася нямецкім страхавым кампаніям у 1,26 мільярда марак.

**ІТАР—ТАСС**

Дзе заўгодна і як заўгодна — так можна коратка сфармуляваць вынікі даследавання сексуальных звычак брытанцаў.

З праведзенага часопісам «Правільнае вядзенне хатняй гаспадаркі» апытання грамадскай думкі выявілася: хоць ложак і ў нашы дні застаецца асноўным месцам любоўных уцех, аднак усё большая колькасць пар аддаюць перавагу разнастайнасці ў гэтым пытанні.

78 працэнтаў апытаных нярэдка «загараюцца» перад тэлевізарам, 60 працэнтаў лічаць зусім прыдатным ванны пакой, а 58 аддаюць перавагу ласкавым абдымкам прыроды. Нягледзячы на гэта, толькі нямногім больш як палова брытанцаў лічаць секс неад'емнай часткай добрага шлюбу. Большасць аднадушна, што без кахання і ўзаемаразумення фізічная блізкасць каштуе нямногага.

**ЭКСТРА-ПРЭС**

## СПОРТ-ЭКСПРЭС

❑ *ХАКЕЙ. КВАЛІФІКАЦЫЙНЫ ТУРНІР ДА АЛІМПІЯДЫ-98*

### ПАЎКРОКА ДА НАГАНА ЗРОБЛЕНА. АСТАТНЮЮ ДЫСТАНЦЫЮ ПРЫЙДЗЕЦЦА АДОЛЕЦЬ У ЛЮТЫМ

Трыумфальна завяршылі першы кваліфікацыйны алімпійскі турнір, які праходзіў з 27 жніўня па 1 верасня ў Рызе, хакеісты нацыянальнай зборнай Беларусі. Адзіную пуцёўку ў наступны этап розыгрышу аспрэчвалі пяць каманд: Беларусі, Латвіі, Літвы, Венгрыі і Эстоніі. Першыя дзве зборныя былі фаварытамі спаборніцтваў. Арганізатары турніру прадбачліва вынеслі іх вочны паядынак на апошні дзень, да якога абедзве зборныя прыйшлі са стопрацэнтнымі вынікамі.

Латвійская каманда, памятаючы знамянальны для сябе выйгрыш у беларусаў з лікам 4:1 на красавіцкім чэмпіянаце свету ў Галандыі, марамі ўжо, відаць, была ў пераможцах. Як-ніяк, а гуляюць у «родных сценах» пры шматтысячнай падтрымцы.

Гаспадары ўпэўнена пачалі гульню і ўжо ў дэбюце матча павялі — 1:0. Гэтая шайба, відаць, стала раздражняльнікам для падначаленых Анатоля Варывончыка. Дарэчы, напярэдадні паездкі ў Прыбалтыку галоўны трэнер беларусаў сказаў, што ніякай іншай задачы, акрамя выйгрышу, першага месца, ён перад камандай не ставіць.

Як аказалася, слоў на вецер Варывончык не кідае. Ужо пад канец першага тайма на табло высвечваліся лічбы 3:1 на карысць беларусаў.

Трэнер гаспадароў Леанід Бераснеў яшчэ верыў у цуд. Аднак са сваімі марамі ён канчаткова развітаўся ў другім тайме пасля гола Алега Раманава («Лада», Расія).

Трэцяя палова сустрэчы прайшла ў сухую». Беларусы выйгралі 4:1. І цяпер алімпійскі шлях да Нагана будзе ляжаць праз заключны кваліфікацыйны турнір, які пройдзе ў пачатку лютага ў Аўстрыі і Германіі адначасова.

Сапернікі нашай зборнай вызначацца пазней.

❑ *ФУТБОЛ. АДБОРАЧНЫЯ МАТЧЫ ЧЭМПІЯНАТУ СВЕТУ-98*

### ШАПКАМІ ЭСТОНЦАЎ УЖО НЕ ЗАКІДАЕШ. ТОЛЬКІ — ГАЛАМІ

Суботнім вечарам 31 жніўня Нацыянальная зборная Беларусі па футболу праводзіла свой другі таварыскі матч адборачнага цыкла чэмпіянату свету-98.

Не сумняваюся, што нешматлікія балельшчыкі, якія прыйшлі падтрымаць нацыянальную каманду рэспублікі, спадзяваліся на большае. Састаў зборнай у цяперашнім варыянце дазваляе быць аптымістам. У асноўным — моладзь з вопытам: Качура, Бялькевіч, Штанюк плюс узыходзячая зорка мінскага «Дынама» Уладзімір Макоўскі. Дарэчы, Валодзя ў першым жа матчы такога ўзроўню пачаў іграць першую скрыпку. І сваю партыю ён адыграў выдатна. Адзіны гол у матчы на рахунку Макоўскага.

Пасля гэтай перамогі наша зборная адразу перамясцілася ў групе № 4 на другое месца — услед за шведамі, якія выйгралі на выездзе ў Латвіі — 2:1. Яшчэ адна пара сапернікаў — Аўстрыя—Шатландыя — праводзіла матч у Вене. Сустрэча закончылася безвынікова — 0:0.

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА Ў ГРУПЕ № 4**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Швецыя | 2 | 2 | 0 | 0 | 7-2 | 6 |
| **2. Беларусь** | **2** | **1** | **0** | **1** | **2-5** | **3** |
| 3. Шатландыя | 1 | 0 | 1 | 0 | 0-0 | 1 |
| 4. Аўстрыя | 1 | 0 | 1 | 0 | 0-0 | 1 |
| 5. Латвія | 1 | 0 | 0 | 1 | 1-2 | 0 |
| 6. Эстонія | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-1 | 0 |

**5 кастрычніка сустракаюцца:**
Латвія—Шатландыя; **Эстонія—Беларусь.**

Вось вынікі астатніх адборачных сустрэч, якія напярэдадні прайшлі ў Еўропе: Грэцыя—Боснія — 3:0, Славенія—Данія — 0:2, Малдова—Англія — 0:3, Азербайджан—Швейцарыя — 1:0, Венгрыя—Фінляндыя — 1:0, Расія—Кіпр — 4:0, Ізраіль—Балгарыя — 2:1, Фарэрскія а-вы—Славакія — 1:2, Уэльс—Сан-Марына — 6:0, Бельгія—Турцыя — 2:1, Ліхтэнштэйн—Ірландыя — 0:5, Румынія—Літва — 3:0, Паўночная Ірландыя—Украіна — 0:1, Арменія—Партугалія — 0:0.

**Пераможная аўра вітае зараз у стане маладзёжнай зборнай Беларусі, якая перайграла равеснікаў з Эстоніі з лікам 3:1 і цвёрда замацавалася ў лідэрах. Астатнія матчы ў групе № 4 завяршыліся таксама перамогамі.**

Аўстрыя—Шатландыя — 4:0
Латвія—Швецыя — 0:2.

**ТУРНІРНАЕ СТАНОВІШЧА КАМАНД (маладзёжных) у чацвёртай адборачнай групе.**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **1. Беларусь** | **2** | **2** | **0** | **0** | **6-2** | **6** |
| 2. Аўстрыя | 1 | 1 | 0 | 0 | 4-0 | 3 |
| 3. Швецыя | 2 | 1 | 0 | 1 | 3-3 | 3 |
| 4. Эстонія | 1 | 0 | 0 | 1 | 1-3 | 0 |
| 5. Латвія | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-2 | 0 |
| 6. Шатландыя | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-4 | 0 |

**4 кастрычніка сустракаюцца:**
**Эстонія—Беларусь**
Латвія—Шатландыя.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## «Ты — жаль, паэзія. Ты — жар»

Помню, у 1989 годзе, калі шырока адзначалася стагоддзе з дня нараджэння выдатнай паэтэсы Анны Ахматавай, тады яшчэ пад Ленінградам у Камарове, дзе яна пахавана, мне давялося чытаць свой пераклад славутага ахматаўскага верша «Дваццаць першае. Ноч. Панядзелак...» У канцы пачуліся гучныя воплескі. Потым да мяне падышла маскоўская паэтэса Тамара Жырмунская са словамі: «Рая, дзе вы чулі, каб на магіле гучалі апладысменты?!» Я тады адказала, што яны адрасаваліся не мне (я толькі перакладчык), гэта ўсё — бессмяротнай Анне Андрэеўне Ахматавай і нашай чароўнай мове, якая вельмі прыдатная менавіта для лірыкі. Тут шмат узораў — ад лірычных вершаў Янкі Купалы да амаль усёй творчасці Максіма Багдановіча. Ну, а калі пра сучасную паэзію, дык згадаю равеснікаў — Яўгенію Янішчыц, Уладзіміра Някляева, Віктара Гардзея, трошкі маладзейшых Леаніда Дранько-Майсюка, Леаніда Галубовіча: у іх тонкай, водарнай лірыцы ёсць чым захапляцца! Што ж да Анны Ахматавай, якая «як мастак, ведала начное жыццё душы і любіла падгледзець пачуццё, калі розум спіць», дык яе сціслыя, строгія радкі крытыкі нярэдка называлі класічнымі раманамі ў вершах. Свае васьмірадкоўі я, амаль жартам, называю маленькімі аповесцямі кахання. Якія яны — меркаваць чытачам.

**Раіса БАРАВІКОВА.**

### З кнігі лірыкі «ВАСЬМІРАДКОЎІ АПОШНІХ ПАЦАЛУНКАЎ»

Зноў апынуліся на скразняку.
Пахне лускою і глеем.
Як трапятліва цалуе руку,
быццам у вусны не ўмеем!

Чымсьці нагадвае мосцік стары
падлогу ў зацемненай келлі,
і халадок тут, бы ў манастыры,
а шчокі чамусь заірдзелі.

•

Піць каву. Варажыць на гушчы.
Стракатых згадваць матылёў,
што і дасюль дзесь у Шлях-Пушчы
ўсё ловяць рэха нашых слоў.

І не здаралася нічога.
Мы нават не былі на «Ты».
Быў лес густы. Была дарога.
І на руцэ тваёй матыль...

•

Усё за нас: двары, кусты,
і нават шэпт цікаўны нечы...
Цяпер я ведаю, што ты
ў мінулым многае адпрэчыў.

А доказ: позіркі твае
у бок эстраднае Венеры,
што так разгублена ў фае
цярэбіць беленькі каўнерык.

•

На выхадзе пагаварылі крышку...
Прыбраны стол. Адбалявалі. Годзе.
Стаяць, бы й не краналі іх кілішкі,
на шчасце не разбіўся з іх ніводзін.

Хітрынкамі згасае свята ў зрэнках,
паціху саступае месца жалю,
але як ззяе ўся мая сукенка,
ёй дастаткова, што была на балю.

•

Аздобваем натхнёна сцены,
страсаючы гадоў дурман...
О, мы героі дзіўнай сцэны,
уся дэкарацыя — падман.

Але яе не разбураю,
бо толькі дробязь розніць нас:
я ўсё трагедыю іграю,
а ты — забаўны нейкі фарс.

•

Важкіх апраўдванняў рой,
званкі тэлефонныя ўпотай...
Я ўсё разумею, толькі не строй
хоць зараз з сябе ідыёта.

Пчолы гудуць кішма,
радыя летняму раю...
Я і сама не тваё імя
ў снах сваіх паўтараю.

•

Нават таленту не збярог,
а ўсё выхваляўся нечым...
Як след развітацца не змог,
бы знік у сярэднявеччы.

Спакой старажытных цаглін.
Лісце ля іх, што піястры,
І ён там малюе махрыстыя астры,
што быць мне букетам калісьці маглі.

*ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...*

## ЭКСТРАСЕНСОРЫКА: аб несур'ёзным сур'ёзна?

**Усё загадкавае, нязведанае заўсёды прыцягвала чалавека. Чараўніцтва, магія, знахарства, экстрасенсорыка былі незразумелымі большасці людзей, а таму і вельмі цікавымі для іх. Асаблівая цікавасць да гэтых з'яў з'явілася пасля перабудовы; і хоць з той пары прайшоў пэўны час, аднак яна не змяншаецца. Менавіта гэта стала адной з прычын сустрэчы доктара медыцыны Аляксандра Уладзіміравіча Ліхача з журналістамі.**

Апрача таго, што сп. Ліхач — доктар медыцыны і журналіст, ён таксама з'яўляецца народным лекарам і экстрасенсам. Апошнія два заняткі сталі асноўнымі ў яго жыцці на працягу апошніх дзесяці гадоў. Штуршком для заняткаў экстрасенсорыкай стаў няшчасны выпадак, які здарыўся са сп. Ліхачом і які ледзь не пазбавіў яго магчымасці рухацца, бо быў пашкоджаны пазваночнік. Пасля некалькіх месяцаў, падчас якіх ён быў «прыкаваны» да ложка, прыйшло разуменне таго, што звычайная медыцына бяссільная перад гэтай хваробай і трэба, калі хочаш жыць і рухацца, шукаць іншага выйсця. Азнаёміўшыся з многімі нетрадыцыйнымі метадамі лячэння, Аляксандр Уладзіміравіч распрацаваў сваю ўласную сістэму лячэння, дзякуючы якой ён ізноў стаў рухацца, а ў дадатак абараніў гэтую сістэму і атрымаў званне доктара медыцыны.

Вось ужо некалькі гадоў доктар Ліхач дапамагае ўсім хворым людзям, якія звяртаюцца да яго па дапамогу, бо часам толькі ён можа вылечыць цяжкахворых. Але не трэба думаць, што лячэнне «паводле Ліхача» абмяжоўваецца толькі маханнем рукамі. Сп. Ліхач распрацаваў сваю сістэму па псіхарэгуляцыі і самакантролі чалавека. Бо нават калі чалавек ужывае супраць нейкай хваробы лекі, а сам не верыць у тое, што калі-небудзь стане здаровым, то ён не тое што не вылечыцца, а нават можа імі сябе забіць.

Сістэма, распрацаваная доктарам, грунтуецца на навуковых ведах і найноўшых даследаваннях, што павялічвае яе эфектыўнасць. Сам сп. Ліхач сцвярджае, што па свайму метаду ён можа лячыць усе хваробы: ад насмарку да прастатыту. Праўда, з хворымі, якія пакутуюць ад псіхічных захворванняў, ён не працуе, бо гэтае лячэнне, па яго запэўніваннях, «трэба праводзіць у закрытых памяшканнях», каб не нанесці шкоды здаровым людзям.

Доктар Ліхач гаворыць, што людзі, з якімі ён працуе, адкрываюць у сабе тое, што да гэтага часу ў іх спала. Так, па яго сцвярджэнню, ён працаваў са зборнай па стральбе; вынікі ашаламляльныя — першаразраднік ператварыўся ў майстра спорту. (Праўда, народны лекар не змог канкрэтна адказаць на пытанне, чаму ж ён не зрабіў сабе выдатную рэкламу і не настроіў беларускіх алімпійцаў на перамогу.)

Прыходзяць да экстрасенса Ліхача і з іншымі праблемамі: людзі з «Белага брацтва» — для таго, каб пазбавіцца ад уплыву секты; хлопцы з АМОНа — з мэтай прадухіліць нервовы зрыў і г. д. Галоўнае, што доктар дапамагае ўсім жадаючым.

Ну, а для журналістаў, якія слухалі сп. Ліхача скептычна, апошні правёў імправізаваны сеанс.

**Сяргей САХАРАЎ.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 3 верасня

### Беларускае тэлебачанне

**9.00** Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. 6-ы клас. Нацыянальны мастацкі музей Беларусі.
**9.25** «Пудзіла». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**11.25** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма.
**11.40** Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
**12.00** Творцы. Кампазітар Уладзімір Дамарацкі.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 6-ы клас. «Песня — душа народа». Беларускія народныя песні ў літаратурным чытанні.
**16.10** «Мсціўцы з 2-га «В», «Мой сябар Кнопік, які ведае ўсё». Кароткаметражныя маст. фільмы.
**16.35** Усё пра ўсё. Інфармацыйна-пазнавальная праграма для дзяцей.
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Аднаасобнік». Дак. фільм Беларускага тэлебачання.
**18.15** «Будзьце здаровы».
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па адным». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Дзяжурная аптэка». Тэлесерыял. 3-я серыя.
**20.10** Канцэртны сезон. Камерны інструментальны ансамбль Белтэлерадыёкампаніі.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Хроніка жніва-96.
**22.10** «Тэхнабанк» прадстаўляе: «Зоркі» на экране. Валянцін Гафт і Ніна Русланава ў маст. фільме «Я вольны, я нічый».
**23.40** Творцы. Дырыжор Юрый Яфімаў.
**0.20** Навіны.

### ГРТ

**9.05** «Мы». Вядучы У. Познер.
**9.50** Смехапанарама. Вядучы Я. Петрасян.
**10.15** Мультфільм.
**10.30** «Адгадай мелодыю».
**11.00** Навіны.
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак».
**11.50** «Мікалай Грынько. Каб помнілі...» Аўтарская праграма Л. Філатава.
**12:35** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял.
**13.30** Каханне з першага погляду.
**14.00** Навіны.
**14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца».
**14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія».
**14.55** Мульцітролія.
**15.10** Чароўны свет, ці Сінема.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў».
**17.00** Навіны.
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю».
**19.00** Тэма.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.35** Праграма перадач.
**20.40** Яўген Ляонаў у камедыі Георгія Данэліі «Трыццаць тры».
**22.10** «Бэзавы туман». Музычная праграма.
**22.55** Навіны.
**23.05** Новыя абываце лі.
**23.35** «Белай акацыі гронкі духмяныя...» Музычная праграма.

### «Расія»

**10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі.
**8.30** «Дарагая рэдакцыя...»
**9.00** «Санта-Барбара».
**9.50** Тавары — поштай.
**16.20** Каляндар.
**16.30** Залежыць ад цябе.
**16.45** Тэлечасопіс «Здароўе».
**16.55** Хакей. Кубак свету. ЗША—Расія. Перадача з Нью-Йорка.
**19.30** «Санта-Барбара».
**20.30** Раз на тыдзень.
**20.55** Надвор'е на заўтра.
**21.00** Мужчына і жанчына.
**21.40** Ціхі дом. Праграма С. Шолахава.
**22.30** Начное жыццё гарадоў свету.
**23.20** Тэлемагазін.
**23.30** Гарачая дзесятка.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 22.00, 23.05** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.00** Тэрмін адказу — сёння.
**13.30** Парады садаводам.
**13.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**14.10** «Рышэльe». Серыял (Францыя). 6-я серыя (заключная).
**15.05** «З днём нараджэння, ці Інкогніта». Тэлефільм.
**16.10** Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
**16.35** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў.
**17.00** Стыль жыцця.
**17.05** Дзіцячае ТБ. Там, дзе жыве Павуціныч; Студыя «Уяві».
**17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Першае каханне». Серыял.
**20.10** Расійскі фермер.
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** «Рышэльe». Серыял (Францыя). 6-я серыя (заключная).
**22.15** Футбол. Чэмпіянат Расіі. «Зеніт»—«Аланія» (Уладзікаўказ).

### НТБ

**13.00** Сёння.
**9.10** Дак. фільм «Успомнім тыя гады. 1955—1956».
**10.40** Маст. фільм «Развітанне славянкі».
**12.00** Фестываль міні-серыялаў. «Каралеўства» (Данія). 1-я серыя.
**12.50** Доктар Вугал.

### Расійскія універсітэты

**14.40** «Узрост кахання. Дзяўчына». Дак. фільм аб палавым выхаванні.
**14.50** На «Славянскім базары» з Надзеяй Бабкінай. «Кубанцы».
**15.05** «Тайны Маскоўскага Крамля». Дак. фільм. 2-я серыя «Рэзідэнцыя ўлады».
**16.00** Музычныя навіны.
**16.10** Цішыня № 9. «Шалёны Фрыц».
**16.40** Навіны.

### НТБ

**17.00** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу.
**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Р. Гір і К. Андэрсан у фільме «Далёка ад дома».
**21.35** Фестываль міні-серыялаў. «Каралеўства». 2-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу.

## СЁННЯ

| СОНЦА | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.20 | 19.57 | 13.37 |
| Віцебск – | 6.08 | 19.50 | 13.42 |
| Магілёў – | 6.09 | 19.47 | 13.38 |
| Гомель – | 6.11 | 19.39 | 13.28 |
| Гродна – | 6.37 | 20.10 | 13.33 |
| Брэст – | 6.39 | 20.10 | 13.31 |

### МЕСЯЦ

**Апошняя квадра 4 верасня**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Фадзея, Васы, Аўрамія. К. Рыгора, Ізабэлы**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, па поўдню пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне, Брэсце — 24—26, Мінску, Магілёве, Віцебску — 25—27, Гомелі — 26—28 градусаў.

У наступныя двое сутак: 4 верасня — па поўначы, 5-га — месцамі па рэспубліцы пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература ўначы — 7—12, 5-га па паўночнаму захаду — 3—8, удзень — 14—19; па паўднёваму ўсходу — 21—26 градусаў цяпла.



## НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

## ВЕРАСЕНЬ

Рымляне назвалі гэты месяц проста: па парадкаваму нумару ў тагачасным календары — сёмы. А прысвяцілі яго Вулкану, богу агню.

Сучасная наша назва — верасень паходзіць ад слова «верас»: іменна ў гэты час расліна, якая так любіць беларускія пагоркі, пачынае красаваць.

**5. Лупа**. З іменем святога хрысціянскага пакутніка Лупы ў народзе звязаны цалкам процілеглыя прыметы. Гэты дзень аднымі лічыўся ўдалым для азімай сяўбы: «На Лупа будзе жыта купа». Другія, наадварот, папярэджвалі: нельга сеяць, бо па ўсёй ніве будуць «лупы» — жыта ўзыдзе і вырасце плешынамі.

**7. Баўтрамей (Варфаламей)**. Гэты прысвятак звязвалі з адлётам птушак і пачаткам пары вяселляў: «Святы Баўтрамей высылае буслоў па дзяцей».

**10. Мацей.** Абаронца ад запойнага п'янства. Вельмі ўшаноўваўся жонкамі алкаголікаў.

**11. Іван Галавасек (Іван Калінавік).** Дзень адсячэння галавы Іаана Прадцечы меў бытавыя прыметы і павер'і. Нельга было есці круглых пладоў і варыць чырвонае бацвінне. Забаранялася рэзаць нажамі і секчы сякерамі ўсё, што мела круглыя абрысы, нават хлеб наразалі загадзя ці ламалі яго рукамі. На Калінавіка збіралі ягады каліны, журавіны і выкарыстоўвалі ад боляў галавы.

**14. Сымон.** Апошні дзень ворыва пад азімыя: «Святы Сымон — а й сявец дамоў». У гэты прысвятак — зменлівае надвор'е: «Сымон да варот, на дварэ сем пагод: сее, вее, круціць, муціць, зверху лье, знізу мяце».

**16. Цуды.** Хто сее ў гэты дзень жыта ды не ведае, што за дзень, то ўродзіць цудоўная збажына. Калі ж ведае, ці раптам успомніць і не кіне работу — з ураджаю атрымаецца «цуда» наадварот.

**21. Багач, Малая Прачыстая.** Язычніцкае старажытнае свята заканчэння ўборкі зерневых. Багач цяпер прымеркаваны да свята нараджэння Багародзіцы. «Прыйшоў Багач — кідай рагач, бяры сявеньку, сей паманеньку». Пра стомленасць жанчын ад восеньскіх работ гаварылася ў прыказцы: «Да Багача баба рабача, па Багачы — хоць за плот валачы». Назіралі за жывёлай, каб рабіць прагнозы аб наступленні зімы: калі пасля малой Прачыстай скаціна імкнецца на пашу вельмі рана, то і зіма будзе ранняя.

**24. Тадора (Хвядора).** «На Тадору ўсякае лета канчаецца».

**27. Узвіжанне (Здзвіжанне)**. Свята «закрывання» зямлі на зіму. Лічылася, што ў гэты дзень у клубкі звіваюцца гадзюкі і вужы, каб схавацца ў норы, таму ў лес не хадзілі.

**29. Міхал (па каталіцкім календары).** «На Міхала ясная ноч — будзе трывалая зіма. Калі на Міхала з поўначы вее, то не май на надвор'е надзеі».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4954.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12